PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 51 (1910) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 20 СНЕЖНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.



*У адной з падгайнаўскіх вёсак дажывае свой век клуня, якая памятае яшчэ дзевятнаццатае стагоддзе.*
**Фота Уладзіслава Завадскага**

## ДЗЕНЬ СВЯЦІЦЕЛЯ МІКАЛАЯ

6/19 снежня Праваслаўная царква ўшаноўвае памяць аднаго з вялікіх Боскіх угоднікаў — свяціцеля Мікалая Цудатворца. З усёй плеяды святых толькі двум святым адводзяцца адрэзьныя дні ў штотыднёвым цыкле набажэнстваў: аўторак — Вялікаму Прароку, Папярэдніку і Хрысціцелю Гасподняму св. Іаану, а чацвер — калі разам са св. Мікалаем Царква праслаўляе таксама ўсіх Святых Апосталаў. Гэта якраз сведчыць аб вялікім значэнні свяціцеля Мікалая ў нашай царкве.

Св. Мікалай нарадзіўся каля 280 года ў горадзе Патары ў Анатоліі (Малая Азія). Яго бацькі, Феафан і Нонна, паабяцалі перадаць яго на службу Богу, як гэта часта бывала ў людзей, якія доўга не мелі дзяцей, і якіх просьбу ў канцы Бог выслухаў. Ягоны дзядзька, які быў архіепіскапам у гэтым горадзе, пабачыўшы прыроджаныя здольнасці сваяка да духоўнага жыцця, паставіў яго спачатку „чтецом”, а пасля пасвяціў яго ў свяшчэннікі.

Св. Мікалай вельмі хацеў пабачыць тыя мясціны, у якіх пабываў Збавіцель. Калі апынуўся ў Святой Зямлі, меў візію, у якой Хрыстос даваў яму Св. Евангелле, а Багародзіца — амафор. Быў гэта знак ягонай будучай архіпастырскай функцыі. І сапраўды, неўзабаве так сталася. Пасля вяртання з Палесціны пераязджае ён у горад Міры Лікійскія, дзе яго выбіраюць епіскапам. Св. Мікалай стаў вядомым з-за сваёй міласэрнасці і дапамогі людзям. Ягоная дапамога часта засцерагала людзей ад грахоў і духоўнай смерці. Яшчэ пры жыцці зрабіў ён



многа цудаў, напрыклад: захаваў ад смерці трох мужчын (глядзі прытвор Сабора св. Мікалая ў Беластоку), выратаваў жыхароў Мір Лікійскіх ад голаду, вызваліў з палону нявінных, якія сядзелі ў турме. Асабліва часта пасля малітваў свяціцеля Мікалая ратаваліся людзі, якія знаходзіліся на моры. Таму і з'яўляецца ён заступнікам маракоў (кожнае грэчаскае судна мае ікону св. Мікалая, таксама было і ў дарэвалюцыйнай Расіі) і ўсіх падарожнікаў.

Св. Мікалай быў удзельнікам I Усяленскага сабора, які адбыўся ў Ніцы ў 325 г. у сувязі з ерассю Арыя, які абвяргаў боскасць Ісуса Хрыста. Адышоў ён да Госпада праўдападобна ў 345—351 гадах. Ягоныя мошчы знаходзіліся ў Мірах Лікійскіх. У 1087 годзе былі яны перанесены ў горад Бары ў Паўднёвай Італіі. Звязана было гэта з небяспекай агрэсіі з боку туркаў. Дзень свяціцеля Мікалая з'яўляецца асаблівым днём для праваслаўных Беластока, паколькі яго галоўны храм — кафедральны сабор носіць імя св. Мікалая. Гэты дзень таксама ўрачыста святкуецца ў многіх прыходах Беласточчыны, між іншым у Белавежы, Гарадзіску, Кленіках, Кляшчэлях, Міхалове, Шудзялаве, Нараўцы, Новым Двары, Драгічыне, Зубачах, Коснай, Мілейчыцах.

**С. Н.**

## ЯК ЖЫЦЬ БЕЗ ВОРАГА?

Пытанне, вынесенае ў загаловак гэтага тэксту, вядома, рытарычнае. Кожны ж ведае, што без ворага жыць альбо вельмі добра, альбо зусім немагчыма. А паколькі мы жывем вельмі пагана, то ў дадзены момант пытанне гэтае для нас яшчэ і тэарэтычнае.

Месяцы два назад мы даведаліся, што жывем ўсё-такі без ворага. Вайскоўцы падалі да публічнага ведама галоўны тэзіс так званай вайсковай (абароннай) дзяржаўнай дактрыны: Польшча не мае ворагаў. Але адначасова сказалі, што лік польскага войска не скарачаецца — яно адно пераязджае (дыслакуецца) з захаду на ўсход. Так што, відаць, сутнасць сцвярджэння „Польшча не мае ворагаў” растлумачваецца вайскоўцамі ў тых тэзісах, якія да публічнага ведама пададзеныя не былі.

Але пакінем збоку мілітарнае значэнне вышэй згаданай дзяржаўнай дактрыны, а падумаем крыху пра яе сацыялагічна-псіхалагічны выгук. Такое, мабыць, Польшчы прыдарэцца першы раз у яе гісторыі. У школе нас вучылі, што краіна наогул заўсёды мела ворагаў, з захаду і ўсходу амаль увесь час, а часта-густа і з іншых бакоў. Грамадскае адчуванне ў Польшчы наконт яе вонкавых дачыненняў фармавала думка, што немец нам напэўна вораг, а рускі таксама не прыяцель. А тут узнікла сітуацыя, калі трэба ламаць гэты гістарычны стэрэатып (альбо інакш — польскую нацыянальную аксіёму). Вялікага трэску пакуль што не чуваць, значыць, нічога па сутнасці не змянілася (у грамадскім адчуванні).

Другая рэфлексія: дзяржаве і ейным палітыкам наогул добра мець ворага. Пагрозай вонкавага характару можна шмат што апраўдаць, калі не зусім ладзіцца па ўнутрыдзяржаўным жыцці. Інакш кажучы, калі ты не маеш ворагаў, уся адказнасць за няўдачы і промахі кладзецца выключна на цябе. Будаванне новага палітычнага ладу ў абставінах эканамічнага крызісу і без вонкавых ворагаў — заданне не з лёгкіх. Ці не таму якраз поўна ў нашым унутрыдзяржаўным жыцці варожасці і нянавісці? Варагуюць з сабою палітыкі розных партыяў, усё ідзе без ладу і складу, а розныя самародныя фашыстоўскія групоўкі na gwałt вышукоўваюць сабе ворагаў паміж усім, што не польскае і каталіцкае (паміж нацыянальнымі меншасцямі перш за ўсё). Жыць без ворага немагчыма. А паколькі жыць усё-такі хочацца, дык хоць адзін клопат нам не пагражае — пошук свайго ворага. Ён сам нас знойдзе.

**ЯН МАКСІМЮК**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W normalnym cywilizowanym świecie żadnej erotyki nie ma i być nie może — stwierdził lider białoruskiej opozycji Zenon Poźniak. Na wsi białoruskiej mężczyzna od rana pracował w polu, potem przychodził do domu, żona go karmiła, razem wychowywali dzieci. A nocą zajmowali się naturalną kontynuacją rodzaju ludzkiego. Zgadzając się z poglądami Cerkwi przywódca białoruskiej opozycji oznajmił, że erotyka to diabelstwo i wymysł szatana.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 279)*

Вось табе і на! Калі Зянон быў на Беласточчыне, знаёмыя нам дзяўчаты казалі, што лідэр БНФу — асоба *super-sexy*. А зноў жа адна знаёмая біяэнергатэрапеўтка з Менска нядаўна нам паведаміла: *Ад Зянона б'е халодная энергетыка.*

* * *

*Podczas kolejnego zgromadzenia delegatów Polskiego Ruchu Monarchistycznego regent Leszek Wierzchowski nadał pięć tytułów arystokratycznych, w tym tytuł książęcy Lechowi Wałęsie i jego rodzinie.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 282)*

Вольныя прэзідэнцкія выбары ўжо былі. Цяпер чакаем *wolnej elekcji.*

* * *

*Kaplica katolicka powstanie w Sejmie.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 282)*

Цалкам сэнсоўная задума. Пасля шаленстваў з Анастазіямі паслам трэба ж дзе-небудзь пакаяцца.

* * *

*Są mniejszości narodowe, proszę bardzo, niech sobie będą. Z tym, że niech zamkną mordy i siedzą cicho. Mieszkasz w Polsce to jesteś Polakiem.*
*(Kurier Podlaski, nr 231, rozmowa z białostockim gaulajterem Narodowego Frontu Polskiego)*

Jawohl!

Тамжа:

*Tylko Polacy mogą korzystać z pełni praw obywatelskich w Państwie Polskim.*

Мы ў гэтым зусім не вінаватыя.

* * *

*Stalin powywoził polskich kolejarzy na syberyjską śmierć. Do nowych, porządnych i murowanych budynków Czeremchy-Stacji wprowadzili się prawosławni z Czeremchy-Wsi. Tak rozpoczął się proces przekształcania Polskich Kolei Państwowych w Sowiecką Żelazną Drogę.*
*(Kurier Podlaski, nr 235)*

Казік Семеняка вяртаецца да свае аблюбаванае тэмы. У 1988 годзе ў „Pod różnymi krzyżami" выступаў з пазіцыі правакатара. Сёння — з пазіцыі параноіка.

Далей — болей:

*No i chlor pojechał przez Czeremchę, siedzibę białorusko-ukraińskiej gminy. Tam w razie kolejowego kataklizmu zginie mniej osób, do tego w większości wyznania prawosławnego.*

У сённяшні невясёлы час гэта, трэба меркаваць, вельмі добрая навіна. Прынамсі для неправаслаўных.

* * *

*Z badań: Sympatię do Białorusinów deklaruje ok. 14% Polaków, co daje 18 pozycję wśród ocenianych narodowości — za Murzynami.*
*Ale przed Chińczykami.*
*(Kurier Podlaski, nr 240)*

* * *

*Według respondentów sopockiej Pracowni Badań Społecznych 26—30 proc. polskich polityków bierze łapówki i wykorzystuje stanowiska dla własnej korzyści.*
*(Kurier Podlaski, nr 235)*

Нядобра, халера. Пару справаў трэба было б аформіць, а грошай няма. А пры нагодзе — гэтыя палітыкі не такія ўжо дурні, як усім нам здаецца...

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Лех Валэнса хоча стварыць кансультацыйны камітэт прэзідэнтаў Польшчы і Украіны.** У лісце напраўленым **Леаніду Краўчуку** прапанаваў ён, каб камітэт заняўся прыгранічным супрацоўніцтвам, бартэрным гандлем, барацьбой са злачыннасцю, стварэннем супольных нацыянальных паркаў і ўвядзеннем еўрапейскіх юрыдычных стандартаў.

**Праблематыка ўсходняга памежжа** была тэмай семінара, арганізаванага Беластоцкім ваяводам і Інстытутам геаграфіі і прасторавага загаспадарання ПАН у Супраслі. Мэта семінара — абмен думкамі наконт шырокага прыгранічнага супрацоўніцтва, а таксама спроба каардынаваць дзеянні ў гэтай галіне. Удзел у мерапрыемстве прынялі прадстаўнікі цэнтральных улад і кіраўнікі прыгранічных ваяводстваў і гмін.

**Развіваецца імпарт мяса з Усходу.** У Беласток найбольш пападае сырых гавяджых флякаў, пераважна з мясакамбінатаў у Слоніме, Гродне, Лідзе і Менску. У гэтым годзе беластоцкія фірмы прывезлі 680 тон мяса, з чаго толькі ў лістападзе — звыш 125 тон. Апрача флякаў прывезена таксама 140 бычкоў, 62 коні і 21 тону рыбных кансерваў.

**Вандалы разбурылі надмагільныя помнікі на могілках савецкіх салдат у Эльблангу.** Такое ў гэтым годзе здарылася ўжо трэці раз. На могілках спачывае прах трох тысяч чырвонаармейцаў.

**Нямецкая ўстанова аховы канстытуцыі** паінфармавала, што да 6 снежня 1992 г. у Нямеччыне былі ўчынены 2084 атакі на чужаземцаў; чвэрць з іх — 556 — гэта падпалы і бомбавыя замахі, у выніку якіх згінула 17 чалавек.

**Нават 100 гадзін трэба было чакаць, каб перасячы польска-беларускую** граніцу на КПП Кузніца — Брузгі. Прычынай гэтаму была распаўсюджаная ў Гродне плётка, што ў Брузгах беларускія мытнікі не правяраюць турыстаў і таму многія падарожнікі падаваліся ў Польшчу менавіта праз гэты КПП.

**Міжнародны цягнік Беласток — Чаромха — Брэст** пачаў курсіраваць з 10 па 23 снежня 1992 г.



## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ Гісторыя беларускага школьніцтва ў Орлі.
- ✓ У Гарадку людзі катэгарычна за існаванне базару.
- ✓ Беларускі палітычны рух у Ольштыне.
- ✓ Яшчэ раз пра царкоўную архітэктуру.

**Рэдакцыя тыднёвіка „Ніва" выказвае глыбокае спачуванне**

**СЦЯПАНУ КОПУ**

**з прычыны напаткаўшага Яго гора — смерці БАЦЬКІ**

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### КОЛЬКІ ВАЎКОЎ НЕ КАРМІ

Пасол ЗША Д. Суорц выказаў крайнюю заклапочанасць з нагоды рашэння Вярхоўнага Савета аб адмове ад рэферэндуму на Беларусі, падкрэсліўшы, што факт гэты „сведчыць пра наяўнасць рэгрэсу на шляху да будаўніцтва дэмакратычнай і прававой дзяржавы ў Рэспубліцы Беларусь".

Аказваецца, яшчэ пятага лістапада ў Міністэрства замежных спраў рэспублікі была перададзена нота Злучаных Штатаў аб антызаконным адхіленні рэферэндуму. Палітычна вытрыманая па ўсіх міжнародных правілах, яна была ахарактарызавана дэпутатам У. Русаковічам як „прававое ўмяшанне ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы".

Па перакананню, выказанаму Зянонам Пазьняком праз „Народную газету", наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета не ведае і не хоча разумець, што пытанні дэмакратыі і правоў чалавека, асабліва пасля таго, як Беларусь падпісала ўсе міжнародныя пакты і пагадненні па гэтых пытаннях, знаходзяцца ў сферы міжнароднай зацікаўленасці.

Што ж, першыя крокі кансерватараў на міжнароднай арэне не настолькі ж арыгінальныя, як і ўсё, што вытваралі яны ў гады сацыялістычнага застою.

### СТРАСЦІ ПА РЭФЕРЭНДУМУ

Прадстаўнікі творчай і навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі звярнуліся да тых дэпутатаў, якія яшчэ не страцілі пачуцця адказнасці перад народам з заклікам вярнуцца да разгляду пытання аб прызначэнні даты рэферэндуму аб роспуску цяперашняга Вярхоўнага Савета і новых выбарах.

Сярод іх пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Сяргей Грахоўскі, мастак Аляксей Марачкін, гісторык Анатоль Грыцкевіч.

### ГОД ПЕРАЖЫЛІ І ВЫРАШЫЛІ

Год назад з Маскоўскага Крамля знік чырвоны сцяг, бо ў беларускіх Віскулях абвясцілі аб роспуску СССР.

10 снежня 1991 года і 2 снежня 1992 года Беларуская сацыялагічная служба „Грамадская думка" задала прадстаўнікам розных слаёў насельніцтва Рэспублікі Беларусь пытанне: „Ці адабраеце Вы дамоўленасць кіраўнікоў Расеі, Украіны, Беларусі аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў?" У 1991 годзе станоўча адказалі 69 працэнтаў, адмоўна толькі 10, затое ў 1992 годзе меркаванні амаль зраўнаваліся: адобрылі дамоўленасць 42 працэнты, не — 34.

### САМІ З ВУСАМІ

Падобна на тое, што Універсітэт гісторыі і культуры, які дзейнічае пры Беларускім народным фронце, хутка стане дастойным канкурэнтам навуковым установам Беларусі.

Па рашэнню Управы БНФ тут будуць створаны эканамічны і палітычны факультэты, а ў перспектыве — і экалагічны. Патрэба ў апошнім тым больш адчувальная пасля міжнароднай канферэнцыі „Зялёныя лёгкія Еўропы", што адбылася ў Варшаве з удзелам прадстаўнікоў БНФ і Аб'яднання беларусаў свету „Бацькаўшчына", дзе абмяркоўваліся перспектывы пераўтварэння Польшчы, Беларусі, Украіны і Літвы ў рэгіён „зялёных лёгкіх".

### НАМ ПАТРЭБЕН ПРЭЗІДЭНТ. АЛЕ „СЛАБЫ".

Па ўсім відаць, быць Беларусі прэзідэнцкай рэспублікай, але (па прыкладу Германіі) у „слабым" варыянце.

Ва ўсялякім выпадку, большасць прысутнічаючых на пасяджэнні Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета, якая працуе над праектам новай канстытуцыі, падтрымала гэту прапанову. Ды і Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч за тое, каб будучы прэзідэнт быў кіраўніком не прадстаўнічай, а выканаўчай улады.

Што датычыць парламента, яму наканаваны лёс поўнасцю прафесійнага вышэйшага заканадаўчага органа.

### НЯЛЁТНАЕ НАДВОР'Е НІ ПРЫ ЧЫМ

19 мільёнаў 849 тысяч рублёў, два самалёты (кошт кожнага цяпер перавышае 420 мільёнаў рублёў), так і не атрыманыя Беларускім упраўленнем грамдзянскай авіяцыі, і прыблізна тры мільёны долараў ЗША, якія належаць Беларусі за пралёт яе паветраных прасторы замежнымі самалётамі, відаць, на доўгі час „аселі" ў Маскве.

Гэтая вымушаная „пасадка", мяркуючы па ўпартаму маўчанню старшыні ліквідацыйнай камісіі Міністэрства грамадзянскай авіяцыі былога СССР В. Замоціна ў адказ на патрабаванне начальніка БУГА Р. Фёдарава вярнуць заробленае, пагражае зацягнуцца.

Саюза няма, а развітвацца з прывілеяванымі ўмовамі Масква зусім не жадае.

### ГАРЫ ЯНО ГАРАМ...

Дзень інвалідаў ветэран вайны мінчанін Мікалай Лукаўскі адзначыў ля Дома ўрада, пагражаючы спаліць сябе і машыну-„інвалідку".

На шчасце, міліцыянерам удалося выцягнуць машыну на плошчу Незалежнасці і прадухіліць акт ахвярапрынашэння.

Але ветэран намераны працягваць акцыю супраць несправядлівых адносін да інвалідаў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## КОНЬ-П'ЯНІЦА

Ідучы з базару ў Саколцы спаткаў я свайго калегу, гаспадара з аднае з пад-сакольскіх вёсак. Мікалай быў лёгка ўсхваляваны, але чамусьці задаволены сабой. Год мы ўжо не бачыліся, таму трэба было прынамсі выпіць піва. Загулялі мы тады някепска, але з гэтай нашай сустрэчы запамяталася мне незвычайная гісторыя, якую расказаў Коля.

Восенню падох яму конь і трэба было купіць другога. Дзесьці ў канцы верасня прыехаў ён на базар і адразу трапіўся яму на вока „каштан". Магло яму быць 3—4 гады: быў ён высокі, з шырокім перадам, з невялікай галавой — як на малюнку. Гаспадар цаніў і не надта дорага — толькі 13 мільёнаў. Паводле Мікалая варты ён быў нават 14—15 мільёнаў, але добры купец заўсёды трошку таргуецца. Таму мой калега прапанаваў 11 мільёнаў, а той доўга не гаворачы панізіў цану на дванаццаць. Выпіўшы барыш, шчаслівы Мікалай з канём амаль бягом шпарыў дадому, каб паказаць яго жонцы і суседзям. Усе ім захапляліся і віншавалі Колю са знакамітым кантрактам.

Увечары гаспадар намяшаў сечку з аўсом і пайшоў накарміць прыгожую жывёліну. Адчыняе ён дзверы, а конь заднімі нагамі брыкае, храпе, кідаецца на свайго пана! За неалькі гадзін „каштан" змяніўся так, што не пазнаць.

— Што яму сталася, і што рабіць з халераю? — пытаўся Мікалай у суседзяў. На шчасце знайшоўся дзядзька, які ўжо калісьці чуў пра такую натуру каня і расказаў Колі пра свае заўвагі з вандровак па розных базарах. Конь той штотыдзень, а то і часцей, мяняў гаспадара.

— Калі конь нічым не быў адурманены, — паясняў дзядзька, — тады станавіўся вельмі агрэсіўны, але хопіць уліць яму ў горла літр самагонкі і робіцца ён спакойны як ягня. Зразумела, што такога п'яніцу ніхто трымаць не будзе, бо гаспадар, калі мае гарэлку, то перш за ўсё сам яе вып'е! Выглядала так, што і „каштан" Колі ніколі плуга не цягнуў толькі піў гарэлку і вандраваў з базара на базар і пераходзіў з рук у рукі. Хто не ведаў прычыны гвалтоўных пераменаў у захаванні каня, той даўжэй з ім мучыўся. Мікалаю пашанцавала — прадаў яго праз тыдзень і яшчэ зарабіў 600 тысяч злотых. У той дзень, калі я яго спаткаў у Саколцы, бачыў ён на базары „свайго" каня. Стаяў спакойны, і як заўсёды ў такім стане, адурманены алкаголем.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

## АЎГУСТ III У БЕЛАВЕЖЫ

Восень! Шмат паляўнічых запускаецца гэтай парой года ў лясныя нетры. У Белавежскую пушчу з'язджаюцца валютныя паляўнічыя, пераважна з Нямеччыны. Але цяперашнія паляванні мала ў чым напамінаюць тыя, якія наладжваліся ў каралеўскія часы. Сёння згадаем адно з іх — паляванне Аўгуста III Саса. Тым больш, што сёлета мінае 240 гадоў з дня яго правядзення.

Аўгуст III наогул любіў паляваць. Калі мінаў ахоўны час для звярыны і набліжаўся дзень св. Губерта — заступніка паляўнічых (3 лістапада), кароль прысвячаў ловам многія дні. Падараваны яму бацькам паляўнічы палацык у Вермсдорфе (пазней каралём названы Губертсбургам), разбудаваў ён да памераў найвялікшай у Еўропе будыніны, а хутчэй комплексу гмахаў і павільёнаў прыгодных для паляўнічай справы. З часам ловы ў вялікім маштабе станавіліся ўсё больш рэдкія. Прычынай гэтаму было выбіццё буйнай звярыны яшчэ пры Аўгусце II. Распаўсюдзіліся такім чынам заменныя гульні і вучэнні, пераважна стральба ў мішэнь у розных умовах, ад чаго кароль таксама меў задавальненне.

Паляваў Аўгуст III і ў Польшчы, хаця аказіяў для гэтага не было шмат. Калі не хапала грошай, карыстаўся ён тады толькі запрашэннямі на ловы. Арганізаваў іх пераважна ў Млацінах міністр і каралеўскі дарадчык Гайнрых фон Бруль. Больш рэдкімі былі выезды ў Кампіноскую, яшчэ радчэйшымі ў Казяніцкую пушчы. Часамі нехта з магнатаў наладжваў каралю паляванні. Тады яны выглядалі менш-больш так, як у Белавежы, 27 верасня 1752 г.

Яшчэ надоўга да прыезду караля, аблава, складзена з тысячы навакольных мужыкоў, пад кіраўніцтвам саксонскіх егераў, вылоўлівала ў сеткі рознаю звярыну і пускала яе ў звярынец, заснаваны яшчэ каралём Стэфанам Баторыем, а адноўлены і пашыраны менавіта па загаду Аўгуста III. Са звярынца выходзіў калідор, пры канцы якога стаяла паляўнічая альтанка. Паляванне праводзілася вось такім спосабам. Лясная служба наганяла ў калідор злоўленую звярыну, а кароль з жонкай, значыць Марыяй Юзэфай, стралялі да яе, седзячы выгодна ў альтанцы. Кожная паляўнічая ўдача каралеўскай пары абвяшчалася фанфарамі. Запрошаны на паляванне высокія дзяржаўныя ўраднікі, сярод якіх знаходзіліся м.інш. гетман Я.К. Браніцкі, міністр Г. фон Бруль, чэснік кароны Веляпольскі, генерал каронны пошты маршал Біберштэйн, прыдворны маршал Шонеберг і найвышэйшы лоўчы дэ Вольферсдорф, маглі толькі прыглядацца гэтаму відовішчу і выказваць свае захапленне меткасцю караля і каралевы. Летапісец адзначыў яшчэ, што каралева падчас палявання займалася чытаннем нейкага французскага рамана, а руку да стрэльбы працягвала толькі тады, калі бачыла выбягаючую з калідора звярыну. Усё ж такі палажыла яна трупам 20 зуброў. Паляванню прыглядаліся таксама каралевічы, 22-гадовы Ксаверы і 19-гадовы Караль. Закончылася яно такім вось вынікам: 42 зубры, 13 ласёў, 2 сарны. Мяса ўпаляванай звярыны быццам было раздадзена мясцовым мужыкам, прынамсі гэтак сцвярджае летапісец.

На памятку палявання ў Белавежы быў пастаўлены абеліск з адпаведнымі надпісамі на сценках. Узорам быў помнік у Морыцбургу ля Дрэздэна. У 1915 г. абеліск быў вывезены царскімі войскамі ў глыб Расіі, адкуль вярнуўся, у надта дрэнным стане, у Варшаву, пасля заканчэння вайны. У 1924 г. намаганні перавезці яго ў Гродна рабіў тамашні гістарычны музей. Але абеліск, хаця і няхутка, бо толькі ў 1938 г., усё-такі вярнуўся ў Белавежу. Зараз лічыцца ён найстарэйшым помнікам старадаўнасці ў мястэчку.

**ПЁТР БАЙКО**

## СКУПАСЦЬ РУЙНУЕ

Польная дарога, якая праходзіць цераз урочышча „Ляшкава" за вёскай Дубічы-Царкоўныя мае цяпер прыгожы выгляд: пасыпаная гравіем, выгладжаная грэйдэрам, паабапал — выкапаныя машынаю равы. Як гаворыцца — хоць каціся па ёй. Адрамантавалі яе, па ініцыятыве радных і Гмінная управы ў Дубічах-Царкоўных, улетку гэтага года. Варта прыгадаць, што ўрочышча „Ляшкава" — гэта наша найлепшая зямля.

Дарогу гэтую геадэзісты вызначылі падчас камасацыі (другой) у 1977 годзе. Падчас разводдзя або пасля восеньскіх дажджоў цяжка было ёю праехаць. Цяпер жа насыпалі адзін пласт гравію, а на яго яшчэ і другі — каб дарога была мацнейшая. Здавалася б, што клопатам будзе канец — толькі цешыцца. Але не так яно ёсць і дурната некаторых сялян стала прычынай таго, што дарога атрымалася надта вузкая, бо мае толькі чатыры метры шырыні: цяжка на ёй абмінуцца. Каб не зачапіцца коламі, трэба з'язджаць у роў. Такім чынам гравій з насыпу будзе асыпацца ў равы і скора і следу па іх не застанецца. Дарога павінна мець шэсць метраў, а не чатыры. Зрэшты — дарога, калі вузкая — небяспечная для ездакоў. А вузкая яна таму, што некаторыя вельмі скупыя і прагныя гаспадары пашкадавалі адпусціць са сваіх грунтаў гэтыя два метры зямлі больш. Калісьці, за камуны, ніхто і не пытаў бы іх пра гэта — а сёння ж свабода!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

P.S. Каб пашырыць дарогу да шасці метраў, трэба адчужаць грунты ў сялян. А як вядома адчужэнне — гэта доўгая, бюракратычная працэдура, заканчэнне якой цяжка прадбачыць.

## АЎТАРСКАЯ СУСТРЭЧА З Я. ЦЕЛУШЭЦКІМ

Нядаўна нашую ваколіцу наведаў беларускі літаратар Янка Целушэцкі. 17 лістапада 1992 г. гасцяваў ён у Дубіцкай школе, прысутнічаў на ўроку беларускай мовы, які вяла спадарыня Галіна Трашчотка. Вучні з вялікай увагай слухалі паэта, які расказаў пра гісторыю беларускай культуры і пра сваю творчасць. Госць пазнаёміў таксама прысутных са зместам сваёй кніжкі "Імгненні".

Дзеці маглі шмат чаму навучыцца, а перш за ўсё як цаніць і шанаваць сваю родную мову, бараніць спадчыну нашых продкаў, стаць беларускімі патрыётамі.

На другі дзень Янка Целушэцкі меў сустрэчу у нашым ГОКу з жыхарамі Дубіч-Царкоўных. Прыйшлі таксама вучні з суседняй вёскі Грабавец. Больш чым гадзіну літаратар гаварыў пра беларускія справы на Беласточчыне і адказваў на шматлікія пытанні. Сустрэча прайшла ў вельмі цёплым і прыемным настроі. Спецыяльныя слова падзякі належацца тут дырэктару ГОКу Уладзіміру Коўшуку, які добра падрыхтаваў гэтае мерапрыемства.

**М. П.**

## ПРЫСУДЖАНЫЯ НА СУПРАЦОЎНІЦТВА

25 лістапада ў „Бізнес-клубе", які ўтварыўся пры Расейскім асяродку культуры ў Варшаве, мела месца сустрэча польскіх прадпрымальнікаў з Надзвычайным і паўнамоцным паслом Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Сянько. У сустрэчы ўдзел прынялі: гандлёвы саветнік РБ у Варшаве Мікалай Петрушкевіч, намеснік міністра па справах кантактаў з замежжам Польскай Рэчыпаспалітай К. Патканьскі і ваявода бяльска-падляшскі Т. Коршань.

Сустрэча выклікала вялікае зацікаўленне — узале падрыхтаваных было 80 месц, але давялося яшчэ дастаўляць крэслы. Перад уваходам прадаваўся інфарматар (за 300 тысяч злотых) пра фірмы і суполкі – патэнцыяльных партнёраў — на Беларусі.

Беларусь і Польшча гэта блізкія суседзі, сказаў між іншым пасол, і яны, хоч не хоч, прысуджаныя на супрацоўніцтва. Апошні візіт прэм'ер-міністр Г. Сухоцкай у Беларусь пацвердзіў жаданне абодвух бакоў супрацоўнічаць і пашыраць кантакты. Немалаважнае ў пабудове добрасуседскіх зносін тое, што няма на Беларусі антыпольскіх настрояў і антыбеларускіх у Польшчы.

Беларусь на фоне усяе Садружнасці Незалежных Дзяржаваў адзначацца даволі стабільнай палітычнай і эканамічнай сітуацыяй. Няма тут ніякіх сур'ёзных канфліктаў, нацыянальных, рэлігійных ці якіх іншых, няма таксама пагрозы збройных канфліктаў на межах Беларусі. Не без уплыву на гэта беларускі менталітэт — людзі ў нас спакойныя і талерантныя (часамі аж занадта).

Сёння Беларусь адбудоўвае сваю незалежнасць, працягваў спадар Сянько. Свой шанц бачым ва ўзнікненні СНД, якую разглядаем як эканамічную супольнасць, у ніякім выпадку як вайсковую. Было б для нас вельмі некарысна, калі б парваліся тыя эканамічныя сувязі, якія ствараліся яшчэ ў рамках СССР. Урад Беларусі лічыць таксама, што ў бягучы момант гаспадарка Беларусі пацярпела б на выхадзе з рублёвай зоны (Расея, для прыкладу, увяла б сусветную цану на нафту, тады эканоміка Беларусі рассыпалася б).

На будучыню мы хочам уключыцца ў працэсы еўрапейскай інтэграцыі. Найкарацейшая дарога ў Еўропу — праз Польшчу. На сённяшні дзень вельмі засмучае нас становішча пераходных пунктаў на мяжы. Сітуацыя ўжо так набалелая, што нельга нічога не рабіць. У Менску пані прэм'ер абяцала, што ў будучым годзе Польшча знойдзе сродкі на пабудову інфраструктуры ў двух пунктах, дзе на беларускім баку ўжо ўсё гатова для пропуску людзей.

Міністр Патканьскі звярнуў увагу прысутных, што для Беларусі Польшча з'яўляецца галоўным гандлёвым партнёрам (каля 20 працэнт усяго абароту), але для Польшчы кантакты з Беларуссю састаўляюць няцэлы працэнт усяго гандлёвага абароту. Апрача станоўчых момантаў на Беларусі, ёсць там таксама адмоўныя. Гаспадарка ў дрэнным становішчы, грамадства становіцца ўсё бяднейшым, узмацняюцца інфляцыйныя працэсы. Але супрацоўніцтва Польшчы і Беларусі ўзмацняецца, узнікаюць новыя сумесныя фірмы. У Менску было падпісанае пагадненне аб пазбяганні падвойнага ападаткавання.

Польшча хоча аднолькава супрацоўнічаць з Усходам і Захадам, працягваў міністр, але на ўсходзе прэм'ер-міністр падалася спачатку ў Менск. Гэта таксама штосьці абазначае.

М. Петрушкевіч абяцаў адкрыццё ў хуткім ужо часе сумеснага польска-беларускага гандлёвага банка, а бяльска-падляшскі ваявода — рознабаковую дапамогу пры пераходзе дзяржаўнай мяжы ў пунктах, якія знаходзяцца на падпарадкаванай яму тэрыторыі.

**ак**

## ВЕСТКІ З ГАЙНАЎКІ

У канцы жніўня "малы рынак", што быў пры вуліцы С. Баторыя, быў перанесены на вуліцу 3 Мая. На старым месцы будуць прадаваць толькі харчовыя прадукты. Як заўсёды - сярод прадаючых большая частка з-за ўсходняй мяжы. Людзі ахвотна ў іх купляюць, бо танна.

Часта мяняюцца ўласнікі прыватных крамаў, напрыклад, піўная ў гарадскім туалеце ужо не існуе. Новы ўласнік вядзе тут цяпер малую гастраномію. Уласнік "Дэлікатэсаў-Порта" меў яшчэ адну краму, з халадзільнікамі і іншымі прамысловымі вырабамі. Утрымаць дзве крамы цяжка, і прамысловыя вырабы прадаюцца сёння ў "Дэлікатэсах".

Нядаўна адрамантавалі будынак гайнаўскай пошты н-р 1 і тратуары паўз вуліцу С. Баторыя.

**АЎРОРА**

# САКРЭТНЫЯ СТАРОНКІ СУЧАСНАЙ ГІСТОРЫІ

У гісторыі Беларусі было нямала вельмі цяжкіх момантаў. Адны з іх былі пакутліва пераадолены нашым народам і засталіся толькі ў памяці яго, некаторыя ж і сёння балюча смыляць яму, як незагойныя раны. Такой вось і з'яўляецца Віленская трагедыя, як яе слушна назваў Віктар Сіўчык, разгляду якой ён і прысвяціў гэтую кнігу*/.

І сапраўды, як не трагедыяй лічыць тое, што Віленшчына, якая на працягу многіх стагоддзяў была адной з магутнейшых апор беларушчыны, засталася па-за межамі Беларускай дзяржавы? Хіба не Віленшчына, як сведчыць археалогія, была першай асадай беларускага племя крывічоў яшчэ ў VII ст. н.э.? Яны ж і заснавалі Вільню, якая спачатку і называлася Крывічагорадам. Яна стала апорным пунктам крывіцкай каланізацыі гэтага краю, таму і зразумела, чаму ён называўся Крывіціяй, як пасведчыў у пачатку XIV ст. нямецкі храніст П. Дусбург. Ужо ў II пал. XI ст. Віленшчына уваходзіць у склад Полацкага княства як адзін з яго ўдзелаў, і таму ў Вільні каля 1070 г. сядзеў полацкі князь Расціслаў. Гэты факт пацвярджае праўдзівасць сведчання Васкрасенскага летапісу аб тым, што вільняне пасля 1129 г. узялі сабе ў якасці князёў сыноў Расціслава - Давіда і Маўкольда. Менавіта ад гэтай галіны полацкай дынастыі і паходзіць род вялікіх князёў Вялікага княства Літоўскага. Гэта дзяржава была тыпова беларускай як па свайму ўтварэнню /бо складалася шляхам мірнага аб'яднання беларускіх зямель вакол Навагародка і заваяваннем ім балцка-літоўскіх зямель/, так і па свайму характару, паколькі яна кіравалася найперш інтарэсамі беларускіх зямель, што складалі пераважную большасць яе тэрыторыі. І Вільня, стаўшы пасля Навагародка сталіцай гэтай дзяржавы, асабліва падкрэслівала яе беларускасць. У ёй, як і ва ўсёй краіне, панавала беларуская стыхія, абумоўленая большасцю беларускага насельніцтва. Апроч таго тут знаходзіўся вялікакняжацкі двор і дзяржаўная канцылярыя, якія карысталіся беларускай мовай як дзяржаўнай, што яшчэ больш спрыяла яе пашырэнню і ўкараненню ў асяроддзі балцкага насельніцтва.

Вільня стала галоўным цэнтрам беларускага адраджэння пасля заняпаду беларускай дзяржаўнасці і культуры у XVII-XVIII ст.ст. Дзеля гэтага варта толькі адзначыць, што тут выдаваліся газеты "Наша доля" і "Наша ніва", тут праходзіла дзейнасць такіх выдатных беларускіх дзеячаў, як К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, браты Луцкевічы, Я. Купала, Я. Колас, А. Пашкевіч (Цётка), В. Ластоўскі, Зм. Бядуля, М. Гарэцкі і інш. У перыяд 1920-1939 г.г. Вільня фактычна была неафіцыйнай сталіцай Заходняй Беларусі, дзе канцэнтраваліся важнейшыя палітычныя і культурныя беларускія сілы.

Ужо толькі гэтыя факты пераканаўча сведчаць аб беларускай прыналежнасці Вільні і Віленшчыны. Аднак аб першаступенным іх значэнні для Беларусі добра ведалі і нашы суседзі. І яны ўсё рабілі дзеля таго, каб запаланіць гэты край чужародным яму элементам, тым самым перайначыць яго і аб'явіць сваім. Пачалі гэту справу езуіты, якія, пасяліўшыся ў 1569 г. у Вільні, з выключнай настойлівасцю пачалі пракладваць сюды дарогу польскай экспансіі. А з канца XVIII ст., калі край апынуўся ў складзе Расійскай імперыі, царскія чыноўнікі і іх памагатыя-абрусіцелі з ліку насланых сюды святароў і настаўнікаў імкнуліся ператварыць яго ў "істінно русскій". Аднак, нягледзячы на такія ўпартыя намаганні з усіх бакоў, Віленшчына па-ранейшаму заставалася беларускай. У кнізе А. Карэвы "Віленская губернія", выдадзенай у 1851 г., адзначана, што насельніцтва ад Вільні да Трокаў гаворыць па-беларуску.

Але найбольш злачынным захадам ў адносінах да Віленшчыны былі зроблены ў савецкі час, калі крамлёўскія ўладары ператварылі беларускія землі ў разменную манету дзеля дасягнення сваіх палітычных мэтаў. Масква пры гэтым не пакрыўдзіла і сябе, прыхапіўшы заходнія Смаленшчыну і Браншчыну, паабяцаныя БССР пры яе абвяшчэнні ў 1919 г. У ліку іншых разбазараных бальшавікамі беларускіх зямель аказалася і Віленшчына, аддадзеная Літве. Але, адабраная ў 1920 г. Польшчай, яна разам з іншымі заходнебеларускімі землямі да 1939 г. знаходзілася ў складзе апошняй. Пры раздзеле Польшчы паміж Масквой і Берлінам Віленшчына спачатку была ўключана у склад БССР, аднак у хуткім часе яна зноў стала разменнай манетай Масквы і была прададзена ёю Літве за права ўвесці на яе тэрыторыю апошняй савецкія войскі.

У пасляваенны час летувіскі савецкі ўрад, добра бачачы, што беларусы складаюць асноўную частку Віленшчыны і што яны на працягу стагоддзяў асімілёўвалі літоўцаў, усё стаў рабіць, каб іх этнічна растварыць. Не маючы магчымасці аблетувіць беларусаў, летувіскія ўлады адчынілі шырокую дарогу для іх паланізацыі і русіфікацыі, разумеючы, што прышлы элемент менш небяспечны чым карэнны. Адчыняліся ў Вільні і на Віленшчыне польскія і рускія школы, выдаваліся польскія і рускія газеты, аднак усё гэта не дазвалялася беларусам. Так беларуская Віленшчына апынулася адначасова пад ціскам трох сіл. Сапернічаючы і варагуючы паміж сабою, яны былі адзіныя ва ўдушэнні ўсяго беларускага. На жаль, беларусам Віленшчыны не магла прыйсці на дапамогу іх адзінакроўная Беларусь, бо яна сама знаходзілася не ў лепшым становішчы, стаўшы арэнай агалцелай русіфікацыі, якую, выконваючы волю Масквы, праводзілі па-халуйску аддадзеныя ёй беларускія ўлады.

Так, гэта сапраўдная трагедыя. І ўсё ж яна не бясконцая. Той апраметны час, які спарадзіў яе, мінуў, і, трэба думаць, беззваротна. А тым самым наспяваюць і ўмовы для справядлівага вырашэння віленскага пытання. Але толькі не шляхам патрабавання перадачы Віленшчыны ў склад Беларусі. Гэта можа пацягнуць за сабой бясконцы крывавы канфлікт накшталт карабахскага. А беларусы, як было слушна заўважана ў канцы мінулага стагоддзя, рабілі сваю гісторыю без шуму і гвалту. Так няхай будзе і надалей. Як ні зжывалі беларусаў стагоддзямі і асабліва апошнімі дзесяцігоддзямі, яны захавалі сябе як народ, абуджаецца і расце іх самасвядомасць. І не толькі на Беларусі, але і на Віленшчыне. І гэта дасць ім магчымасць пазбавіцца ад той маны, якой іх так доўга труцілі і тым самым адрывалі ад свайго народа. І пробліскі такога абуджэння ўжо ёсць. А яно - галоўнае, бо прывядзе Віленшчыну да ўсведамлення сваёй поўнай еднасці з усім сваім народам. І яе тады не змогуць разарваць ніякія межы, як бы яны балюча ні праходзілі па жывым целе народа. Усяму гэтаму ў значнай меры будзе спрыяць і гэтая кніга В. Сіўчыка, своечасовы выхад якой трэба толькі вітаць.

**МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ**

---

*/ *В. Сіўчык, Невядомая вайна супраць Беларусі, Мінск 1992.*

## „СТАЛІН, ВЯРНІСЯ”

75 гадоў таму назад бальшавікі разагналі апошні з дэмакратычных урадаў, якія існавалі ў Расеі ад лютага да кастрычніка 1917 г. Гратэск быў тым большы, што змагары за сацыялізм разагналі ўрад Керанскага, які амаль выключна складаўся з сацыялістаў.

7 лістапада 1917 г. пачалася ў Расеі новая эпоха. Бальшавіцкі імператар Уладзімір Ленін устанавіў неўзабаве першую ленінскую норму — 700 „ворагаў народа” за аднаго забітага бальшавіка. Чэкісты Фелікса Дзяржынскага сталі першымі стаханаўцамі — планы перавыконвалі ў некалькі разоў.

Улада, здабытая гвалтам і разбоем, не мела ні абавязку, ні патрэбы перад нікім апраўдвацца. Адзін і той самы чалавек быў паліцыянтам, пракурорам, суддзёй і катам. Улада гэтая ў сапраўднасці ад нікога не была залежнай. Тых, якія былі супраць яе, ліквідавалі на некалькі спосабаў — канцлагер, голад, расстрэл, псіхічнае зняволенне. У сапраўднасці ніхто не ведае, які быў лік знішчаных „ворагаў” дзяржавы „рабочых і сялян”. У расейскай і беларускай прэсе пішацца цяпер пра 30—50 мільёнаў чалавек.

Памылкай было б сказаць, што сістэма, створаная камуністамі, мела супраць сабе цэлае грамадства. Наадварот, амаль цэлае грамадства лічыла гэтую ўладу сваёй і было перакананае, што яна паўстала з яго волі. Нават тады, калі калоны зняволеных людзей гналі ў канцлагеры, ніхто не сумняваўся, што так і трэба. Эканамічныя змены прынеслі тэрар, голад і канібалізм. Прычыны цяжкасці штодзённага жыцця ўлада паясняла знаходжаннем у радах партыі, адміністрацыі, паліцыі, сярод вучоных і артыстаў здраднікаў, якія, дзейнічаючы супраць інтарэсаў рабочых і сялян, давялі да такой галечы. І тады ўлада звярталася да народа з пытаннем: „Ці трэба пакараць злачынцаў?” Народ прынцыпова адказваў: „Так!”. Лік ворагаў ніколі не змяншваўся, а наадварот — было іх усё больш і больш. Тыя, што яшчэ не сталі „здраднікамі” і крычалі „так”, былі перакананы, што яны пра ўсё рашалі, што ўлада абараніла іх перад яшчэ горшым.

Выраслі новыя пакаленні, якіх ужо не трэба было тэрарызаваць, каб былі паслушнымі. Ад дзяцінства чулі яны адну праўду, бачылі толькі адзін аўтарытэт. Партыя давала грошы, працу, асвету, адпачынак, харчаванне, кватэру, водку, кіно, дазваляла жаніцца і мець дзяцей. Ніхто і не думаў выступаць супраць гэтай „адзінай і справядлівай” сістэмы. Тыя, што мелі нейкія сумненні, не толькі ў вачах улады, але і цэлага грамадства, заслугоўвалі толькі асуджэння і пасялення ў псіхіятрычны шпіталь, або іншае месца, дзе „дурня” ніхто слухаць і бачыць не будзе.

І сталася нешта нечаканае. Пасля звыш 70 гадоў існавання ляснула „вечная і апошняя стадыя развіцця чалавечнасці”. Камунізм не знішчыла ніякая апазіцыя, а толькі партыйная наменклатура, свядомая абсурднасці палітычнага і эканамічнага ладу. Усё ўдалося зрабіць, нават выхаваць грамадства, якое і без сістэмы асталося надалей камуністычным. Немагчыма было толькі абмануць эканоміку. Нізкая прадукцыйнасць, тэхналагічная адсталасць, дэмаралізацыя кіраўнічых кадраў не давалі ніякіх шанцаў на будучыню.

Кожная рэвалюцыя пачыналася з таго, што пануючыя эліты прабавалі ратаваць сітуацыю, рэфармуючы старую сістэму. Пасля ўсё валілася. Лібералізацыя камунізму таксама скончылася яго поўным развалам. Асталіся толькі мільёны сірот — людзей, якія не ведаюць, што рабіць і як жыць. Прапалі старыя структуры, новыя яшчэ не паўсталі. Самакіраванне, дэмакратыя — гэта толькі словы, якіх сапраўднага сэнсу не разумеюць нават грамадскія эліты.

Знікла ўсялякая адказнасць, прапалі аўтарытэты. Разгублены чалавек не ведае, чаго трымацца, перастаў адрозніваць добрае і дрэннае. З высокіх трыбунаў гучаць: „Бярыце ўладу ў свае рукі”, „Памажыце сабе самі”, „Самі шукайце сабе працу”, „Зарабляйце грошы колькі хочаце, толькі плаціце падаткі”. Усё тут незразумелае. Дзе гэтыя грошы зарабляць, якія падаткі і за што каму іх плаціць?

У канцы кастрычніка літоўцы перапрасілі камуністаў і запрасілі іх да ўлады, а 7 лістапада сотні тысяч людзей выйшлі на вуліцы Масквы, Менска і Кіева. Сярод шматлікіх лозунгаў найчасцей паўтараліся „Савецкі Саюз, вярніся”, „Сталін, вярніся”.

Ці абазначае гэта вяртанне камунізму, якога шчыра чакае вялікі працэнт грамадства? Абсалютна не, бо няма элітаў, зацікаўленых у яго існаванні. Камуністычныя лозунгі будуць выкарыстоўвацца яшчэ доўга рознымі палітычнымі плынямі, каб дабіцца да ўлады (выбары на Беласточчыне), але рэалізаваць іх ніхто не збіраецца. Таталітарызм можа ўжо толькі паўставаць у шавіністычным варыянце, бо такія ёсць псіхалагічныя патрэбы ўсходнееўрапейскага грамадства.

Вялікі грамадскі рух, які разваліў камунізм, пераўтварыўся ў яго люстравую антытэзу. Адкідаючы ўладу першага сакратара, стварыў месца нейкаму „дучэ”, а ў месца класавай салідарнасці вырасла нацыянальная. Раней камунізм, а сёння нацыяналізм — гэта сферы бяспечнай ідэалогіі. Усё ж такі, Сталін вярнуўся.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## ТАКАЯ БУДУЧЫНЯ, ЯКІЯ БАЦЬКІ ДЗЕЦЯМ

Калі б куратар Беластоцкай школьнай акругі спадар Літэрмус умеў інтэлігентна думаць, дык не пэцкаў бы сабе рук камбінацыямі наконт таго, што зрабіць-учыніць, каб у Бельску паменшыць навучанне беларускай мовы. Яму, як нармальнаму паляку, здаецца, што тыя ўрокі гарантуюць вечнасць дзеля нашай нацыі тут, а гэта вядома, надта не падабаецца, чым ён мяне асабліва не здзіўляе /хоць і лічыць сябе публічна несумненным дэмакратам/.

Будучы на яго месцы, я не браў бы ў галаву тое яшчэ існаванне прадмета беларускай нацыянальнай мовы. І не таму, што датычыць гэта ўсё меншай з году ў год лічбы школаў. Бог з імі, яны памалу самі выліквідуюць усенька айчыннае ў сваіх сценах, пераўтварыўшыся ў тыпова **каланіяльныя** экспазітуры афіцыйнай культурнасці. Працэс своеасаблівай афрыканізацыі, г.зн. ігнаравання аўтахтоннай духоўнасці, паглыбляецца і ў так маральным на першы погляд асяроддзі як настаўніцтва. Скажу больш: пашыраецца сярод беларусцаў з'ява **самапаланізацыі**, пра якую маглі толькі марыць перадваенныя польскія шавіністы з фашыстамі на "крэсах". Днямі даznаюся, вось, што жыхары Рыбалаў - вялізнай "кацапскай" вёскі - накіравалі дэлегацыю Літэрмусу, каб той, урэшце, забараніў калечыць іх дзетак родным словам... Пане куратар, вы, пэўна, абамлелі ад такога вам шчасця?!

Пажыў я ў беларускім свеце нямала. Бадай, няшмат мясцінаў у Беластоцкім краі, у якіх хоць адзін раз не заначаваў быў. Маючы шанц на прыватны, такі натуральны, кантакт з людзьмі, а не прэзідыяльна-акадэмійны, не памятаю якой-колечы сям'і педагога, у якой непрымушона гаварылі б па-беларуску або прынамсці на дыялекце. На мае запытанні, чаму так, нязменна чуў адказ: *пачні па-свойму, то перастануць шанаваць цябе бацькі вучняў*. Маю на ўвазе пяцідзесятыя і шасцідзесятыя гады. А ў сямідзесятыя і васьмідзесятыя - выхаванцы тыя пажаніліся і пасыпалася ад іх новае пакаленне. Прыглядаюся я і да яго. Яно адрозніваецца ад дзядоў усяго цывілізаванейшым бытам. Бо даволі, каб маладыя адкрылі рот і мне адразу ясна, што роднамоўе ў іх ад вялікага звону /паказваюць: фанетыка, інтанацыя, акцэнт/.

Спяваюць у хорах, выступаюць у сцэнках, дэкламуюць вершы, чытаюць "Часопіс" (часамі і кніжку), слухаюць белперадачы, шумяць патрыятычна, і т.д. Але, не думайце, што, вярнуўшыся дамоў, азвуцца адно да аднаго па-свойму. О не! Чаго патрабаваць ад іх, каб былі беларусамі ва ўласнай кватэры, калі ўжо за кулісамі імпрэзнае сцэны не пачуеш т. зв. матчынае мовы. Рыхтык як саветы: бел-чырвона-белыя на вачах публікі, а маскалямі ў душы...

Ідэнтычна і ў "беларускіх" ліцэях, беларускасць у якіх успрымаецца, бы падатак які; аніякімі антэнамі не вылавіш яе ў тлумных калідорах. Нашто яна нам?! - так і відаць на румяных тварыках też-Białorusinów. А стэрарызаваныя, каб "гаварыць", яны "хаворач" (нават на дэкламатарскіх конкурсах).

Ян Чыквін неяк звярнуў маю ўвагу на факт, што літаратурная "Белавежа" трымаецца на ўраджэнцах вёскі; не горада, нягледзячы на лепшую адукаванасць у ім, але які аказваецца бясплодным у галіне нацыянальнай культуры. Як гэта разумець? Проста: **вырашае атмасфера ў бацькоўскім доме.** Ён у тых усіх "мястовых" заядла польскі. "Вёха" пакуль што беларусінская, ды як доўга? Яна ж таксама пераконаная ў тым, што даволі будзе ёй пераключыцца на пальшчызну-айчызну, каб багацей зажыць.

Вера гэта ў цуд, у магію Слова.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

P.S. - Калі б у маю польска-школьную беластоцкую маладосць я загаварыў да сваіх бацькоў не па-свойму, скончылася б уся тая размова катэгарычнай авантураю!

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

Ёсць на нашай Беласточчыне гарады, якіх слава і найсвятлейшыя гады развіцця даўно ўжо адыйшлі ў нябыт. І толькі з пажаўцелых рукапісаў, кніжных старонак ды як жа недасканалай памяці людзей можам судзіць пра іх мінулае ды ўразумець іх значэнне для нашай культуры.

І так, толькі з кніжак можам цяпер даведацца пра даўнюю ролю для беларускай культуры і Праваслаўя такіх гарадоў, як Драгічын (цяпер цэнтр каталіцызму на Падляшшы), Мельнік, Заблудаў, Нарва, Бранск, Сураж. Важнае месца займае тут таксама горад Кляшчэлі, распаложаны пры вытоках Нурца. Гэты каралеўскі горад, заснаваны ў XVI ст., дзякуючы асабліваму мецэнату каралёў (асабліва каралеў) праз некалькі дзесяцігоддзяў ад заснавання стаўся значнейшым пасля Бельска горадам Падляшша.

Кляшчэлі неўзабаве праславіліся, як важны асяродак школьніцтва (адсюль ужо ў XVI ст. шкаляры траплялі ў Ягелонскі універсітэт). Былі яны таксама важным асяродкам Праваслаўя. Тут развіваўся культ св. Мікалая, якога тутэйшае Брацтва абрала сваім заступнікам. І хаця гісторыя па-свойму распарадзілася лёсам Брацтва, яно сталася ў гады уніі фундаментам захавання культуры, выросшай на глебе Праваслаўя. Вялікую ролю адгрываў у гэтым святарскі род Сасноўскіх, і найслаўнейшы сярод іх а. Антон Сасноўскі.

З 1953 г. Кляшчэлі не маюць ужо гарадскіх правоў. З буйнага гаспадарчага, рэлігійнага і культурнага асяродка сталіся яны гмінныя цэнтрам, падобным на іншыя... Хаця, засеянае засталося...

Запрашаем да супольнага экскурсу па кляшчэлеўскай гісторыі.

### І. ПАКУЛЬ УЗНІК ГОРАД

Вядома, як важным фактарам у жыцці і развіцці грамадства з'яўляецца вада і адкрыты доступ да яе. Вада часта абумоўлівае ўвесь гістарычны працэс таго ці іншага горада, рэгіёна. Большасць з даўніх пасяленняў заснавана менавіта над меншымі ці большымі "водамі". Гэтае датычыць і Падляшша.

... Дарагічын, Мельнік і суседняе Бярэсце з'яўляюцца гэтага станоўчым доказам.

Але не толькі паўнаводны Буг даваў пачатак пасяленням. Такія меншыя ці большыя старажытныя пасяленні знойдзем, вядома і на Нарве (Нарва, Сураж і інш.), Арлянцы (Орля), Белай (Бельск) ды іншых. Некалькі буйных пасяленняў узнікла і ўздоўж стакіламетравага цячэння Нурца: Кляшчэлі, Боцькі, Бранск, Цехановец.

Генезіс назвы ракі Нурэц канчаткова не высветлены. Сярод даследчыкаў шмат прыхільнікаў паходжання назвы ад племені неўраў, якое у старажытнасці засяляла заходнюю Беларусь і ўсход сённяшнай Літвы (наяўнасць тут тапанімаў: Наўры, Нераўка і г.п.). Не можна адназначна акрэсліць паходжанне неўраў. *Незалежна ад таго, кім у этнічных адносінах былі неўры - славянамі, балтамі ці кельтамі*, - піша М. Ермаловіч, - *іх мы можам з поўным правам адносіць да ліку нашых продкаў* ("Старажытная Беларусь").

З вышэй сказанага можам меркаваць, што ў вярхоўях Нурца ўжо перад нашай эрай жылі людзі (неўры?), магчыма, што іх пасяленне існавала і на сухім грудзе на месцы сённяшняга мястэчка Кляшчэлі. Новае засяленне гэтай ваколіцы наступала ў V-VII ст.ст. у выніку "вандроўкі народаў". Гэтым разам быў гэта чыста славянскі этнас (просім прабачэння ў прыхільнікаў "яцвяжскай ідэі" - аўт.). Паступова ўзнікаюць пасяленні і гарады, спачатку над Бугам, пасля на меншых рэках.

У X/XI ст.ст. існуе ужо Бярэсце, узмацняецца Драгічын як горад, узнікае Бельск і Мельнік. Да X-XI ст.ст. традыцыя адносіць таксама ўзнікненне Кляшчэль. Як піша Я. Ярашэвіч, Кляшчэлі былі тады мабыць *адным з самых буйных гарадоў на Падляшшы* ("Obraz Litwy"). На жаль у крыніцах не знаходзім таму пацвярджэння. Да гэтай традыцыі вернемся яшчэ ў далейшым.

Для фарміравання Кляшчэль як пасялення, важную ролю адыграла яго распалажэнне. Сюдою жа праходзіў тракт, які спалучаў Бярэсце з Бельскам і Гародняй (адсюль адыходзіла і адгалінаванне на Камянец). Шлях гэты стаўся яшчэ больш наведвальным, калі ўсходнеславянскія землі былі аб'яднаны ў Вялікае княства Літоўскае. З XIII ст., з часоў Галіцка-Валынскага княства паходзяць першыя ўпамінанні пра горад Камянец; з XIV ст. ведаем ужо пра недалёкі ад Кляшчэль горад Высокае. У гэтым жа стагоддзі на месцы Кляшчэль існаваў ужо вялікакняжацкі паляўнічы двор. Тут знаходзілася пераправа праз Нурэц, сюды даходзіў паўднёва-ўсходні край Бельскай пушчы. На поўдзень ад ракі Нурэц прасцягвалася Камянецкая пушча, на ўсходзе ж, па цячэнні Нурца, цягнуліся непраходныя балоты - "вішары".

Але і на гэтых недаступных балотах таксама развівалася жыццё. Каля X ст., над Нурцом, непадалёк сённяшняй вёскі Шапшылы (каля 10 км на захад ад Кляшчэль) было заснаванае гарадзішча, да сёння называнае "Замкам". Пра даўняе зясяленне ваколіц Кляшчэль сведчыць таксама гарадзішча каля вёскі Маліннікі (па дарозе з Бельска ў Кляшчэлі) ды археалагічныя аб'екты рознай даўніны каля Круглага і Волькі Выганоўскай (гм. Орля).

Непасрэднае наваколле Кляшчэль таксама не менш цікавае. Яшчэ ў 1895 г. Ф. Пакроўскі, аўтар "Археалагічнай карты Гродзенскай губерні" звярнуў увагу на высокі луг над Нурцом з назваю "Ознічыска". Назва гэтая была ўтвораная мабыць ад слова Зніч - боства агня ("знічыска" - месца па знічу). Так вось, гэтае месца ў пушчанскай глушы магло быць месцам паганскага культу.

Можна меркаваць, што і хрысціянская вера дайшла тут даволі рана (у недалёкіх Саках ужо у XIII-XIV ст.ст. мог быць хрысціянскі асяродак культу муч. Дзмітрыя). Народная традыцыя, запісаная ў 1936 г. у "Клировых Ведомостях" падае, што да XIV ст. у Кляшчэлях было 8 цэркваў і 900 дамоў. Гэта ўсё мела загінуць у вялікай стыхіі (землятрасенне?). Такія народныя апавяданні не маюць аднак гістарычных асноваў.

Хочам яшчэ звярнуць увагу на назвы ўрочышч з наваколля Кляшчэль. Назвы могуць жа многа сказаць пра мінулае. Возьмем, прыкладна, "Крывавы луг". Вельмі ж мокрае гэтае месца, іржавы колер вады... Легенда гаворыць, што тут адбылася вялікая бітва і пасля яе вада зачырванелася ад крыві. Можна дапускаць таксама, што тут здабывалі жалезную руду (адсюль колер вады). З пісьмовых крыніц ведаем, што ў XVI ст., каля Кляшчэль, у вёсцы Руда (Рудка) здабывалі руду. ("Люстрацыя Падляшскага Ваяводства" з 1576 г.)

З іншых тапонімаў арыгінальнасцю вылучаюцца, між іншым, назвы: Шэршанка, Пархуз, Вонячыэ, Клебанка, Пухово, Тэтэрэвінэць, Забурцы, Выжары, Санкуошчына, Заганкі, Добра Вода (прыток Нурца), Трубянка (былая вёска), Сэрэдоборкі, Януцкі, Дворыска (магчыма, месца, дзе стаяў двор) і інш. Даследаваўшы паходжанне і значэнне гэтых назваў можна было б яшчэ шмат вычытаць з даўняга мінулага Кляшчэль.

*/працяг будзе/*

**М.С., Р.С.**

# ЖЫЦІЕ СВЯТОЙ ВАРВАРЫ

Святая Варвара жыла на пераломе III і IV стагоддзяў. Выводзілася яна з багатай язычніцкай сям'і, якая жыла на поўначы Палесціны ў старажытным фінікійскім горадзе Геліёпалі.

Бацька, з увагі на незвычайную красу дачкі, вырашыў засцерагчы яе ад людскога зроку і зачыніў яе ў вежы, у якой падрыхтаваў ёй некалькі пышных пакояў. Услугоўвалі ёй многія служанкі. З месца свайго адасаблення святая Варвара часта глядзела на цудоўны навакольны свет. Асабліва начное неба, упрыгожанае мільёнамі бліскучых зорак, выклікала ў яе свядомасці пытанні: Адкуль гэта ўсё? Хто стварыў свет? Але на яе пытанні язычніцкія мудрацы і філосафы не ўмелі знайсці адказу.

Нечакана прыйшла ёй з дапамогай Божая благадаць, яна рассвятліла яе сэрца. Тады св. Варвара знайшла адказ на хвалюючыя пытанні. Яна ўпэўнілася, што стваральнікам усяго з'яўляецца Адзіны — прамудры, усемагутны і вечны. Прабываючы ў самоце, яна думала аб Ім, якога знайшло яе дзіцячае сэрца. Неўзабаве змянілася яе сітуацыя. Бацька вырашыў выдаць яе замуж. Аднак святая Варвара супрацьпаставілася гэтаму плану. Бацька, палічыўшы гэтае вынікам яе адасаблення, дазволіў ёй кантактавацца з асяроддзем. Падчас бацькавага падарожжа св. Варвара пасябравала з хрысціянскімі дзяўчатамі і ад іх даведалася аб Хрысце, Яго Маці і аб хрысціянскіх праўдах. Неўзабаве ў горад трапіў святчэннік, якога св. Варвара запрашае ў сакрэце дадому і прымае святое хрышчэнне. З гэтай пары яе сэрца было напоўнена любоўю да Госпада. Урэшце св. Варвара выявіла бацьку факт, што яна хрысціянка. Той, не пагадзіўшыся з тым, што яго дачка, якую ён намагаўся абараніць перад навакольным светам, стала членам ненавіснай і праследаванай секты (так тады называлі хрысціян), вырашыў забіць яе. Св. Варвара ўцякае ў горы і хаваецца ў пячоры. Бацька аднак знаходзіць яе і, пабіўшы, зачыняе яе дома, ставіць страж і мучыць голадам. Яго нянавісць не гасне. Падаецца ён да ўпраўляючага горадам Марцыяна, якога просіць паўплываць на дачку, калі не просьбай дык грозьбай, а калі і гэта не дапаможа, абяцае ён адрачыся дачкі. Так і сталася. Св. Варвара аднак не здалася. На просьбу пакінуць хрысціянства, яна сказала пропаведзь. Тады пачалі мучыць яе: замыкаць нанач у турэмнай камеры. Там святой аб'яўляецца сам Хрыстос, які суцяшае яе, падтрымоўвае на духу і вылечвае раны. Раніцай зноў пачынаюцца страшэнныя мукі, якія святая, пры Боскай помачы цярпліва пераносіць. Пры нагодзе імкнецца яна прапаведаваць Хрыста. Ніхто не стае ў яе абарону апрача жанчыны, якая называлася Юліянай. Цяпер абедзве церпяць з-за Хрыста. Каты, якія ўбачылі немэтазгоднасць сваіх дзеянняў, вырашылі прыгаварыць іх на смерць. Мучаніц выводзяць за горад, каб там адрубаць ім галовы мячом. Святой Варвары галаву адсякае яе бацька. Здарылася гэта каля 306 г., а св. Варвары было тады больш за дзесяць гадоў. За перанесеныя ёю мукі, атрымала яна званне вялікамучаніцы. Яе памяць, а таксама і памяць св. Юліяны, ушаноўваецца 17 снежня (4.XII. — ст.ст.). Мошчы св. Варвары ў VI ст. перанесены былі ў Канстанцінопаль, а адтуль у XII ст. дачка візантыйскага кесара Аляксея Комніна Варвара, якая стала жонкай кіеўскага князя Міхаіла Святаполка, перавезла іх у Русь. Зараз мошчы святой Варвары знаходзяцца ў Саборы святога Уладзіміра ў Кіеве.




На нашай тэрыторыі св. Варвара патрануе цэрквам у Мілейчыцах, Кузаве і Вялікіх Азяранах.

**С.Н.**




**BIBLIOGRAFIA**
**dotycząca ks. Jerzego Szurbaka dyrygenta Zespołu Muzyki Cerkiewnej przy Warszawskiej Operze Kameralnej w Warszawie**

*Працяг; пачатак у 50-м нумары.*


Kański J.: Nicolai Gedda w Warszawie. - *Ruch Muzyczny* 20.02.1983 r. nr 4 s. 14.

Popkowicz-Tajchert Renata: Kolędy na płytach "Veritonu". - *Słowo Powszechne* 29-31.12.1984 r. nr 259/11473/ s. 5.

Weber Jan: Tack skall du ha Nicolai Gedda /Dziękujemy ci Nicolai'u Geddo/. - *Życie Warszawy* 4.01.1983 r.

/tar/: Cerkiewna muzyka. *Kronika Bielsko-Biała* 1.7.1983 r. nr 48 /374/

Księska Teresa: W dowód pamięci. Lubelski Wrzesień Muzyczny. - *Sztandar Ludu* 12.09.1983 r.

Iżykowska-Mironowicz Anna: Organy i śpiewy cerkiewne. Dni Muzyki Organowej i Oratoryjnej. - *Głos Robotniczy* 23.09.1983 r.

MK: Muzyka cerkiewna w pięknym wykonaniu. - *Express Wieczorny* 6.10.1983 r. nr 195/11358/, il.

Kański J.: Nicolai Gedda w Warszawie. - *Ruch Muzyczny* 20.02.1983 r. nr 4, foto.

Łuczak Ryszard: Koncert Zespołu Muzyki Cerkiewnej w Poznaniu. - *Słowo Powszechne* 23.02.1983 r. nr 38/10996/ s. 7.

Gwardak Henryk: Śpiewy cerkiewne. - *Wiadomości Elbląskie* 20.04.1983 r. nr 16.

Koncert w farze. XXI Bydgoski Festiwal Muzyczny. - *Gazeta Pomorska* 2.09.1983 r.

/el-ka/: Zespół Muzyki Cerkiewnej we Wrocławiu. Gratka dla melomanów. - *Gazeta Robotnicza*, Wrocław 10.01.1984 r.

/sach/: Koncerty Zespołu Muzyki Cerkiewnej. Prawdziwe pasmo sukcesów. - *Wieczór Wrocławia* 11.01.1984 r. nr 8/4834/

Dąbrowska Danuta: Wszystkie barwy ikony. - *Razem* 29.01.1984 r. nr 5/368/ s. 20.

Tumiłowicz Bronisław: Bliski Orient. Muzyka. - *Argumenty* 15.04.1984 r. 16, il.

Krukowski Stanisław: Koncert muzyki cerkiewnej. - *Gazeta Jelenia Góra, Legnica, Wałbrzych, Wrocław* 23.05.1984 r. nr 126/10890/

MK: Zespół Muzyki Cerkiewnej szuka mecenasa. - *Express Wieczorny* 24.05.1984 r. nr 103.

Tumiłowicz Bronisław: Quo Vadis? Korespondencja własna z Finlandii. - *Argumenty* 30.06.1985 r. nr 26 s. 6, il.

Szczęsny Mikołaj: Sukces i dotkliwa porażka. Z Festiwalu w Kamieniu Pomorskim. - *Głos Szczeciński* 31.07.1984 r.

Babuchowski Andrzej: Między niebem a ziemią. - *Katolik* 26.08.1984 r nr 35 s. 6, il.

Karwat Krzysztof: Sztuka czy religia? - *Tak i Nie*, Katowice 1985 nr 9 /?/.

Wirski Jan: Pasje księdza Szurbaka. - *Tygodnik Podlaski* 20.07.1986 r. nr 29/193/ s. 6.

Tumiłowicz Bronisław: Czajkowskiego pogląd na świat. Muzyka. - *Argumenty* 16.12.1984 r. nr 51 s. 14.

/MK/: Z muzyką cerkiewną do Finlandii. - *Express Wieczorny* 27.03.1985 r. nr 61 s. 5.

Świdzińska A.: Z J. Szurbakiem nie tylko o laureatach. Nasze rozmowy. - *Gazeta Współczesna* 22.05.1985 r. nr 118/10507/.

/eb/: Zespół Muzyki Cerkiewnej. - *Stolica* 9.06.1985 r. nr 23, il., foto.

/juk/: Jedyny i doskonały. - *Kurier Polski* 23.10.1985 r., il.

Oleś Bronisław: Koncert muzyki cerkiewnej. - *Wiadomości Zagłębia* 17-23.01.1986 r.

Banaś Bolesław: Cerkiewne śpiewy. - *Trybuna Opolska* 2.04.1986 r. nr 77/10732/ s. 1.

MK: Brazylijski sukces. - *Express Wieczorny* 1.09.1986 r., il.

Wątróbski Leszek: Zespół Muzyki Cerkiewnej w Rio. - *Kurier Podlaski* 24-26.10.1986 r. nr 208, il.

Janyst Janusz: Łódzki festiwal organowo-oratoryjny. - *Ruch Muzyczny* 9.11.1986 r. nr 23 s. 20.

Zajączkowski Jerzy: III Przemyska Jesień Muzyczna, cz. 2. - *Życie Przemyskie* 3.12.1986 r.

Zajączkowski Jerzy: III Przemyska Jesień Muzyczna. - *Ruch Muzyczny* 25.01.1987 r. nr 25 s. 12.


*Працяг будзе*

# БЕЛАРУСКАЯ ЦАРЫЦА

Мала хто ведае, што жонка Пятра Вялікага, імператара Расіі, маці царыц Ганны і Елізаветы Екацярына I паходзіла з беларускай сялянскай сям'і. Нарадзілася яна ў 1684 г. каля Віцебска. Бацька яе, Сямён Скаўронь быў прыгонным халопам і нізка кланяўся баярам, якіх яго ўнучкі тысячамі пасылалі на эшафот.

Будучую імператрыцу Сямён Скаўронь ахрысціў Мартай. Дзяўчынка рана страціла бацьку. Маці Марты забрала сваё дзіця і падалася ў Лівонію, дзе ўладкавала яе служанкай у пастара. Марта хутка вучылася. Неўзабаве засвоіла нямецкую мову, магла на ёй пісаць і чытаць. У 16 гадоў яна закахалася і выйшла замуж за шведскага унтэр-афіцэра, які аднак зараз пайшоў на вайну. Марта вельмі хутка пасябравала з пастарам, у якога была служанкай.

У 1702 годзе Марыенбург, дзе жыла Марта, штурмам узялі рускія войскі. Марта апынулася ў палоне і стала вайсковай здабычай рускага унтэр-афіцэра. Вясёлая і прыгожая жанчына трапіла на вочы графу Барысу Шарамецеву. Граф Шарамецеў быў ужо героем Паўночнай вайны, генерал-фельдмаршалам і асобай з круга імператара. У 1703 г. Марта стала першай сяброўкай ваенных вандровак іншага, не менш дастойнага, імператарскага прыдворнага Аляксандра Меншыкава.

Цар Пётр Раманаў быў авангардыстам свае эпохі, так зрэшты, як і яго галоўны вораг кароль Швецыі Карл XII. Марта, дачка беларускага прыгоннага халопа, каханка ягоных афіцэраў стала з яго волі другой асобай у Імперыі. У 1708 г. Марта перайшла на праваслаўнае веравызнанне (да гэтай пары была яна пратэстанткай) і атрымала імя Екацярына Аляксееўна. Гэтае апошняе, імя па бацьку, было ўзята ад хроснага бацькі — царэвіча Аляксея. Ішла вайна са шведамі і туркамі, Пётр I быў прысутны на ўсіх франтах, а разам з ім Екацярына Аляксееўна, жанчына, якая ўжо некалькі гадоў жыла ў ваенных лагерах і рабіла шмат чаго, каб камандуючым расейскімі войскамі асаладзіць іх нялёгкае жыццё.

Імператар умеў цаніць людзей. У 1712 г. Екацярына Аляксееўна стала рускай царыцай. Атрымалася нейк так, што яе хросны бацька, царэвіч Аляксей стаў аднначасова сынам.

Марта-Екацярына да шлюбу з Пятром нарадзіла 11 дзяцей, але ў жывых асталіся толькі дзве дачкі — Ганна і Елізавета — у будучым імператрыцы Расіі. Тады яшчэ ніхто і не думаў, што дочкі Екацярыны, якіх цар узаконіў, зробяць такую бліскучую кар'еру. Законны перамнік спадчыны Раманавых, сын Пятра, царэвіч Аляксей, далучыўся да змоўшчыкаў, якія мелі намер пазбавіць бацьку трона. Аляксей абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе, не перанёс жорсткіх допытаў і памёр у чэрвені 1718 г. Пётр страціў сына і наследніка. Гэтыя абставіны прымусілі яго каранаваць 7 мая 1724 г. Екацярыну Аляксееўну. Каранацыя адбылася на маскоўскім Крамлі, а карэту для царыцы прывезлі аж з Парыжа.

Пару месяцаў пасля гэтых падзеяў, у лістападзе 1724 г., да цара, які прабываў у Пецярбургу, прыйшла вестка пра інтымныя сувязі імператрыцы з камергерам Вілімам Монсам. Некалькі дзён Пётр думаў, як пакараць здрадніцу і яе каханка, абмяркоўваў сотні варыянтаў мукаў. Аднак прыбліжаныя імператара граф Талстой і Остэрман пераканалі яго, што інтарэс дзяржавы і будучыня дачок Ганны і Елізаветы патрабуюць памяркоўнасці ў адносінах да царыцы.

16 лістапада 1724 г. Екацярына прымушана была толькі прысутнічаць пры пакаранні Монса, пасля прыглядацца каля эшафота яго адсечанай галаве. Пасля гэтага скандалу Екацярына пазбавілі ўплываў, але спрытнай жанчыне ўдалося аднавіць сувязі з Меншыкавым і праўдападобна яны разам заўчасна завялі імператара ў магілу. Не было, зрэшты, іншага выхаду. Другім разам праўдападобна сякера ката ўпала б на шыю нават царыцы.

Пётр Вялікі памёр 28 студзеня 1725 года. Расейскі трон знайшоўся ва ўладанні Екацярыны, дачкі беларускага селяніна. Царыла яна да 6 мая 1727 г. Пасля яе смерці ўлада ў гэтай новапаўсталай імперыі знайшлася ў руках Екацярыненых дочак і іх фаварытаў — нямецкіх афіцэраў і лівонскіх графаў.

**На аснове працы Міколы Кузняцова „Беларуская Імператрыца” („Звязда”, 29.X.1992)**
**апрацаваў Я. М.**

# ЗВАРОТ

**Ініцыятыўнай групы ўсебеларускага рэфэрэндуму да міжнароднай супольнасьці**

Ад пачатку гэтага года народ Беларусі жыў чаканьнем усебеларускага рэфэрэндуму. На ўсеагульнае галасаваньне мела быць вынесена пытаньне аб датэрміновых выбарах новага складу вышэйшага органа дзяржаўнай улады Беларусі на шматпартыйнай аснове.

Цяперашні Вярхоўны Савет быў выбраны ў часы камуністычнай дыктатуры і на 86 працэнтаў складаецца з прадстаўнікоў былой камуністычнай эліты. Ён праводзіць антыдзяржаўную, антынародную палітыку. Будучы выбраным да развалу СССР, ён ня стаў вышэйшым органам улады незалежнай дзяржавы, застаючыся прадстаўнічым органам ускраіны імпэрыі. Такая палітыка выклікае незадавальненне грамадзянаў Беларусі і вядзе да ўзмацненьня напружанасьці, да сацыяльных канфліктаў з непрадказальнымі наступствамі.

У гэтых умовах напачатку 1992 года Беларускі Народны Фронт /дэмакратычны рух на Беларусі/ і дэмакратычныя партыі і арганізацыі Беларусі прапанавалі канстытуцыйны шлях да карэнных рэформаў. Такім шляхам мог стаць усебеларускі рэфэрэндум. Гэта была ініцыятыва зьнізу, народжаная і падтрыманая самым народам. За няпоўныя два месяцы было сабрана 442 тысячы подпісаў грамадзянаў Беларусі ў падтрымку рэфэрэндуму. Гэта значна перавышае мінімум у 350 тысячаў, неабходны па беларускіх законах.

Гэтая ініцыятыва народу выклікала магутнае супрацьдзеяньне з боку ўладаў. Практыкаваўся націск, шантаж і запалохваньне грамадзянаў, якія зьбіралі подпісы і падпісваліся за рэфэрэндум. Чыноўнікі выканаўчых органаў улады адмаўляліся засьведчваць подпісы старшыні і члена Ініцыятыўнай групы пячаткамі, што прадугледжана Законам аб рэфэрэндуме.

Нягледзячы на ўсе перашкоды і правакацыі, Ініцыятыўная група працавала спакойна і дакладна, выконваючы ўсе патрабаваньні Закону. У поўнай адпаведнасці з Законам усе сабраныя подпісы былі перададзены ў цэнтральную Камісію па рэфэрэндуму Рэспублікі Беларусь. На працягу месяца Камісія з удзелам адказных супрацоўнікаў Савета Міністраў і Вярхоўнага Савета правярала сабраныя подпісы. У выніку Камісія прызнала іх сапраўднасьць і законнасьць, пра што 12 траўня 1992 году было складзена Заключэньне Камісіі і перададзена ў Вярхоўны Савет. Заставалася прызначыць дату галасаваньня - гэта і толькі гэта павінен паводле Закону зрабіць Вярхоўны Савет.

Аднак вышэйшы орган дзяржаўнай улады Беларусі пайшоў па шляху парушэньня Закона і правоў чалавека. Спачатку ён на працягу паўгода ўхіляўся ад рэфэрэндуму, не праводзячы паседжаньняў. А 29 кастрычніка насуперак Закону прыняў пастанову аб забароне рэфэрэндуму, тым самым гвалтоўна парушыўшы права амаль паўмільёна грамадзянаў. Права выказаць свае адносіны да палітыкі кіраўніцтва дзяржавы канстытуцыйным, дэмакратычным шляхам - галасаваньнем. Права, агульнапрызнанае ва ўсім цывілізаваным сьвеце, права, гарантаванае грамадзянам Беларусі Канстытуцыяй і Законам аб рэфэрэндуме, міжнароднымі пагадненьнямі па ахове правоў чалавека.

Рашэньне аб забароне рэфэрэндуму - гэта спроба задушыць маладую дэмакратыю на Беларусі. Нельга дазволіць, каб гэтая спроба была пасьпяховай. Рэцыдыў таталітарных паводзінаў кіраўніцтва Беларусі стварае небясьпечны прэцэдэнт, бо гэта ставіць пад сумненьне магчымасьць канстытуцыйнага пераходу ад таталітарызму да дэмакратыі.

У гэтых умовах Ініцыятыўная група ўсебеларускага рэфэрэндуму заяўляе, што будзе і надалей кіравацца выключна правілам безумоўнай павагі да законаў, да правоў чалавека. Не адказваючы насільлем на насільле, мы будзем дамагацца выкананьня Закону, выкананьня волевыяўленьня 442 тысяч грамадзянаў Беларусі. Мы будзем дамагацца правядзеньня рэфэрэндуму канстытуцыйнымі, дэмакратычнымі сродкамі.

Ініцыятыўная група ўсебеларускага рэфэрэндуму зьвяртаецца за падтрымкай гэтых намаганьняў да міжнароднай супольнасьці. Лёс дэмакратыі ва Усходняй Эўропе вырашаецца сёньня на Беларусі.

**Прынята**
**Канфэрэнцыяй Ініцыятыўнай групы ўсебеларускага рэфэрэндуму**
14 лістапада 1992 г., Менск

## "АНДЖЭЙКІ" Ў ГАЙНАЎСКІМ БЕЛАРУСКІМ

Пэўна, то былі самыя "неартадаксальныя" "анджэйкі". Не было звычайных, традыцыйных гульняў, не шукалі дзяўчынкі жаніхоў у свячным воску /пэўна ўжо знайшлі наяве ці палічылі, што шукаць яшчэ рана/. Моладзь ірвалася "ў бой", г. зн. у скокі. І адразу, а пятай распачалася дыскатэка.

Настаўнікі і бацькі вучняў, якія былі запрошаны ліцэістамі па чарзе наглядалі за "дзецьмі" /без пільнага вока дарослых пакуль што нікуды/, а тыя, што былі "вольныя" частаваліся пячэннем, гарбатай і кавай у суседнім пакоі.

Пакуль вучні весела танцавалі пад апошнія "хіты", дарослыя нават у свята вялі сур'ёзныя размовы. А дзе яшчэ так спакойна і памяркоўна можна пагаварыць пра поспехі і праблемы дзяцей, школы і адукацыі наогул.

А дзесятай вечара імпрэза скончылася, але ўплыў яе адчуваўся і наступным днём /а то была пятніца/. Многія вучні праспалі і спазніліся на першы ўрок, дый увогуле былі стомлены. Як казалі калісьці і пра нас, не тая ўжо моладзь цяпер! Каб ад танцаў і стаміцца! Ды нічога, у іх яшчэ ўсё наперадзе. Галоўнае, каб ад вучобы не стамляліся.

**АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**

# АБ'ЯВА

Агульнаадукацыйны ліцэй
з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча
ў Бельску-Падляшскім
вул. Каперніка 4

Да выпускнікоў і прыяцеляў нашага ліцэя звяртаемся з просьбай: дапамажыце нам у пакупцы камп'ютэраў, патрэбных для абсталявання камп'ютэрнага класа.

Грошы просім дасылаць на рахунак:

PBK SA w Warszawie, Oddz. Bielsk Podlaski

370419-1759-131

Да вучняў восьмых класаў звяртаемся з прапановай: паступіце на навуку ў наш ліцэй у навучальным годзе 1993/94.

Апрача грунтоўнай падрыхтоўкі да экзаменаў ў вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Польшчы, наша школа стварае магчымасці штудзіраваць у Рэспубліцы Беларусь.

# ПАДПІШЫЦЕСЯ НА „НІВУ”!

Паведамляем нашых чытачоў, што ў рэдакцыі нашага тыднёвіка можна яшчэ падпісацца на „Ніву” на 1993 год.

Кошт квартальнай падпіскі (разам з коштамі высылкі):
— у Польшчы — 52.000 злотых,
— авіяпоштай у Еўропе — 156.000 зл.
— авіяпоштай у ЗША і Канаду — 201.500 зл.
— авіяпоштай у Аўстралію — 292.500 зл.

Грошы трэба пералічваць на рахунак:
Rada Programowa
Tygodnika „Niwa”
Białystok,
ul. Suraska 1
nr konta: PBK SA, I Oddział Białystok,
370406—207917—132.

**„Ніва” — самы каштоўны навагодні падарунак суродзічам за мяжой!**




**МІРА ЛУКША**

xxx

народжаным у Гайнаўцы
ў золкі восеньскі ранак
народжаным у Нарве
ў гуллівую летнюю ноч
народжаным у Саколцы
на руках цёці Надзі і Веры
народжаным у Бельску...
у белых шпіталях
калі апошнія цягнікі
ад'ехалі ў морак
маёй маме ў 39 годзе
вынятай з жывога жывата
паміж Семяноўкай а Беластокам

выйшла з лямпай у агарод
наша баба Люба
вецер вецер
баба Люба нам свеціць
рукою шкло захіляе
ад злога вока
ад памору
ад нажа
ад каменя

Восень жоўтай лістотай
упрыгожвае сцежкі.
Мары — ў магілах,
у марах — часцінкі сэрцаў.

Мы, маладыя беларусы,
ідзем уперад.
Пад нагамі залатыя лісты памяці
шаласцяць несціханай просьбай.

**СЦЯНА**

Першы дзень — пільнавалі сцяну,
Другі дзень — бялілі сцяну,
Трэці дзень — пакрывалі сцяну
Чорнай маззю.

У тую ноч,
Калі спалі ўсе маляры,
Нехта быў ля сцяны,
Аганьком ён свяціў
Í бачыў
Як на фоне святым
Ізноў ажывалі фрэскі.

* * *

Аддаляўся я ад вокнаў
расчыненых уранні.
Ад хваляў
жыта з валількамі.
Ад бору
з тайнамі спрадвечнымі.
Ад песняў,
што трымцелі ў скронях
Ад рэха —
яно журботна клікала...

Потым ужо быў вечар.
Í ноч. Í брэх сабак
Над светам.

* * *

Недапетую песню — дапей.
Недазбіранае — дазбірай.
Несказанае — да канца — скажы.

Толькі крокаў сваіх — не лічы.
Толькі думак сваіх — не тушы.

Веру — жывым перадай.
Веру жывую — пакінь!

**ЮРКА БАЕНА**

**НА ВАКЗАЛЕ
ЧУЖОГА ГОРАДА**

*Жонцы прысвячаю*

Позні вечар.
Стаю на вакзале
Чужога горада.
Праліўны дождж хвастае,
Балюча сячэ мой твар.
Неяк журботна тут,
Холадна ды сонна.

Першая адначасна з другой,
Пятая з шостай,
Дзевятая з дзесятай
Яснеюць рэйкі.

Дзве з гэтых рэек напэўна да цябе,
Каханая.

**ВОСЕНЬ**

Трыццаць гадоў таму назад
наша вёска
танула ў мелодыях песняў...
Пятнаццаць гадоў таму назад
у кожнай хаце...
раіліся мары...
Сёння — ціша...
Або глухі шум ветру.

## У ПЛЫНІ ПРАВАСЛАЎНАЙ ДЭМАГРАФІІ

Айцец Рыгор Сасна з Рыбалаў, наш нястомны даследчык гісторыі праваслаўя на Беласточчыне, парадаваў напрыканцы адыходзячага 1992 года чарговым томам бібліяграфіі праваслаўных прыходаў. На гэты раз выйшла частка дэмаграфічная *), якая змяшчае лікі хрышчэнняў, вянчанняў і пахаванняў у паасобныя гады ў 104 прыхадскіх цэрквах на Беластоцкай зямлі. Даныя гэтыя а. Р. Сасна ў асноўным узяў з метрычных кнігаў, якія захаваліся ў царкоўных архівах. Карыстаўся таксама актамі, кнігамі, статыстычнымі зводкамі і справаздачамі захоўваемымі Дзяржаўным архівам у Беластоку ці метрычнымі кнігамі, якія знаходзяцца ў гмінных і гарадскіх аддзелах запісу актаў грамадзянскага стану ў Беластоцкім ваяводстве. Не абмінуў і друкаваных крыніц, якіх дакладны спісак падаецца ў бібліяграфіі на старонках 10—13.

Асноўную частку тома папярэджвае ўступнае слова аўтара. Айцец Рыгор паясняе, хто займаецца вядзеннем метрычных кнігаў, якія інфармацыі ў іх трапляюць — зараз і раней. Дае таксама кароткі ды змястоўны агляд гэтых жа кнігаў на фоне агульнай гісторыі праваслаўных прыходаў на Беласточчыне, растлумачвае іх вялікую вартасць пры ўстанаўліванні ліку пасяленняў і іх жыхароў, вызначэнню гаспадарчага значэння мясцовасцей раёна. З кнігаў можна даведацца і аб з'яўленні ці знікненні нейкіх сем'яў і цэлых груп жыхароў, рэзультатах ваенных дзеянняў і эпідэміяў, прозвішчах і імёнах людзей, якія насяляюць паасобныя тэрыторыі. Метрычныя кнігі з'яўляюцца заадно цэннымі крыніцамі для правядзення біяграфічных даследаванняў, для вылучэння грамадскай дыферэнцыяцыі жыхарства, рэлігійнага жыцця ці традыцыі данай грамадскасці.

Асноўная частка тома змяшчаецца на 109 старонках. Цэрквы называюцца паводле алфавітнага спіска мясцовасцей. Пасля названня заступніка прыхадскай царквы, даюцца кароткія гістарычныя даведкі агульнага характару і якія ў асобнасці датычаць метрычных кнігаў, зараз ці раней захоўваемых у храмавых архівах. Лікі ахрышчаных, звянчаных і памёрлых падзелены на паасобныя гады. Дыяпазон гадоў даволі вялікі. Найбольш адлеглыя ў часе даныя даюцца для цэркваў Святатроіцкай у Бельску-Падляшскім (1714 г.), Успенскай у Кляшчэлях і Уздзвіжанскай у Кажанах (1736 г.), Святых Космы і Дзяміяна ў Рыбалах (1751 г.), Міхаіла Архангела ў Бельску-Падляшскім і Святамікалаеўскай у Гродзіску (1756 г.), Ус-

☞ *Працяг на стар. 8*




## ВІКТАР ШВЕД - БЕЛАСТОЦКІ КУПАЛА

Яго паэзія змяшчае ў сабе нешта асабліваe. Я яе заўсёды параўноваю да творчасці Янкі Купалы. Найбольш мне падабаецца тое, што яна простая, народная і зразумелая. Могуць яе чытаць малыя, маладыя і старэйшыя. Чытаючы вершы Віктара Шведа бачыцца жыццё такім, якім яно ёсць. Няма ў іх незразумелай, як у большасці паэтаў, філасофіі. З ягонай творчасці проста выплывае любоў да роднага, нашага мінулага і сучаснасці. Вершы Шведа напісаныя для людзей рознай адукаванасці, веравызнання і інтэлектуальнага ўзроўню. Добра было б, каб знайшліся яны ў адным зборніку.

Віктар Швед чалавек скромны, ніколі не пхаецца наперад. Калі іншыя хваляцца, ён працуе для людзей. Быў ён калісьці на аўтарскай сустрэчы ў Дубічах-Царкоўных. Хаця прайшло ўжо з 10 гадоў, памятаю я тую сустрэчу так, як бы яна адбылася ўчорай. Уразіла мяне тады вось гэтая ягоная скромнасць, памяркоўнасць, прастата і адукаванасць, што ў беларускай інтэлігенцыі рэдкая з'ява. Думаю, што таму ў "Зорцы" Віктар Швед друкуецца так часта, што яго вершы не толькі прыгожыя, але таксама і поўныя цяпла і аптымізму. Чытаюць іх амаль усе падпісчыкі "Нівы" у Дубічах-Царкоўных.

Ведаю, што цяпер модныя вершы, якія разумее толькі той, хто іх напіша /а можа і ён не заўсёды/, але калі б так напісалі Купала, Пушкін, Міцкевіч ці Шаўчэнка, хто пра іх сёння ведаў бы!

У Дубічах-Царкоўных жыве сваячка Віктара Шведа Галена Падлінская. Яна і яе муж Робэрт, хаця паляк з-пад Плоцка, гавораць па-беларуску. Як пісьманосец, я часта заходжу да іх і адчуваю там гэтую атмасферу талерантнасці, якая выплывае з вершаў Віктара Шведа.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**20-01-1989 г.**

/.../ панурыя справы, БГКТ буксуе, у чаргову палітычны перапом сітуацыя беларусаў яшчэ болей драматычная, улады ідуць на самацёк... Аднаўляецца пытанне трыццацігадовай даўнасці: "Што з намі будзе?" Ізноў за дапамогай у Мінск /едуць: Барскі, Карпюк, і нехта трэці/. Дэзарыентацыя, набліжэнне хаосу.

Мой апошні выклад на Беларускім народным універсітэцэ: Беларусь у перыяд 1864-1902 г.г., фармаванне сучаснага нацыянальнага руху.

Вечаровы шпацыр з Міпановічамі /.../. Генік: адбылося пасяджэнне Культурнай камісіі Ваяводскай рады нарадовай пад старшынствам праф. Сэрчыка, у драматычным настроі, якое паказала, што мы, беларусы, не можам разлічваць на спагаду гэтых цяперашніх "крэсавякаў". Неразуменне, сцяна!

Трэба тварыць незалежную нацыянальную сілу. На базе "Кантакта" фармавацъ палітычны клуб. Абавязкова матэрыяльна самастойны.

**25-01-1989 г.**

/.../ Закончыў цыкл "у беларускай Канадзе і далей", /24 урыўкі; хопіць іх да вясны/. Як гэта ў мяне, пісалася цяжка і з асцярогліваасцяй, каб не нашкодзіць - і "Ніве", і апісаным людзям. І, адначасна, каб не крывіць душою, не аганьбіцца няпраўдамі.

Давялося замаўчаць пра Адамовіча і Запрудніка /.../. А пра Акулу ды Грышкевічаў - ананімна. Невядома яшчэ, ці не наскандаляць мне саветы за Барыса Рагулю... Магчыма, трохі лагодзіць сітуацыю Барскі, які ў сваёй - пісанай на калене - "Амерыка, якая ты?" падае часам такія весткі, на якія я не адважыўся б... Надта ж залежыць яму на амерыканскіх сувязях?

Яго гэтыя допісы, усё роўна як дэтальны suplement да майго пісання... Бачу, і "Голас Радзімы" узяўся "далучаць" эміграцыю да ўсебеларускага. Ідэалагічнасць гэтага часопіса, аднак, не надта дазваляе яму разгарнуцца.

**28-01-1989 г.**

Першы нумар "Кантакта" /прывёз Лёнік ад Юркі/.

Наколькі мне вядома - тыраж 250 экз.; частка - на БССР, трохі на Захад; рэшта - на месцы plus рэзерва. Рэгулярнасць: узімку і увосень / два нумары ў год; больш немагчымае/.

Значэнне "Кантакта" як часопіса вырасце тады, калі будзе выходзіць - прынамсі - некалькі гадоў ды рытмічна, і змяшчаць тэксты, якія будуць даваць інфармацыю недаступную ў іншых публікатарах. У супрацьным выпадку - апусціцца ў правінцыяльнае "і пайшла пісаць губерня", і прападзе як вартая ўвагі з'ява. - "Ніва" несвядома апэрадзіла "Кантакт", надрукаваўшы Адозву Беларускага народнага фронту. Прыклад зменлівасці сітуацыі, у выніку якой першапраходца можа аказацца эпігонам, калі не не мае магчымасці быць шыбчэйшым.

**02-02-1989 г.**

Учора /раптоўна?/ памёр Веслаў Казанэцкі. Добры паэт. На жаль, па-крэсавяцку абмежаваны, што рэдукавала ягоную грамадскую ролю да польскіх комплексаў.

З'явіўся - чарговы - літаратурны альманах "Белавежы". Прыстойна адрэдагаваны Ваўкавыцкім. Выдавец: Ваяводская управа.

Алеся Сёмуха і Сяржук Вітушка з "Талакі" - з Менску. Сустрэлі іх Антось Міранович, Яўген Вапа, Юрка Каліна. Вечар - у Латышонкаў; затым - у Варшаву. Інтэграцыя маладога Беластока з маладым Мінскам. Трэба ўтварыць фонд для фінансавання - візіты будуць усё часцейшыя / ажывяць наш рух!/.

*/Працяг будзе/*

Тлумачэнні:

*- праф. Антон Адамовіч, эміграцыйны гісторык палітыкі і культуры Беларусі; д-р Янка Запруднік, эміграцыйны дзеяч і рэдактар "Беларуса"; Кастусь Акула, эміграцыйны пісьменнік, рэдактар часопіса ветэранаў "Зважай"; Грышкевічы, Раіса і Францішак, дзеячы экзільнай Беларускай Народнай Рэспублікі;*

*- Барыс Рагуля, былы афіцэр Беларускай Краёвай Абароны часоў нямецкай акупацыі, а ў эміграцыі стаў выдатным лекарам і дзеячам у беларускіх асяроддзях у Канадзе;*

*- Веслаў Казанэцкі, вядомы польскі паэт з Беластока; пастулова схіляўся да польска-беларускага яднання.*

**КАЛЯНДАР „НІВЫ" НА 1993 год будзе змешчаны ў 1 нумары ад 3 студзеня 1993 г.**



ЧАСТКА XXI

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Па сутнасці, ніякія аргументы, скіраваныя на зразуменне неабходнасці тых перамен, якія наступілі ў постсацыялістычных краінах, не сустракаюцца са зразуменнем з боку значнай большасці як беларусаў у Польшчы, так і з боку беларусаў з Рэспублікі Беларусь. Асабліва вострымі ў сваёй адмоўнасці бываюць выказванні тых сялян, якія ведаюць тых сучасных беларускіх капіталістаў, якіх я стараюся папулярызаваць як людзей новага тыпу. Ніводзін з размоўцаў не хоча згадзіцца з тым, што беларускія капіталісты праявяць якінебудзь альтруізм, што частку сваіх даходаў схочуць перадаць на грамадскія мэты, што хочуць дапамагчы тым, хто знайшоўся ў цяжкай матэрыяльнай сітуацыі. Наогул размоўцы, асабліва тыя, якія маюць прыблізна толькі гадоў, што і я, або старэйшыя за мяне, што называецца не лічацца са словамі. Вельмі хутка яны пачынаюць злавацца, нярэдка мацюкацца, на такіх ці іншых людзей , звязаных з капіталам або з новым палітычным парадкам. Вельмі крытычна ацэньваюць яны вядучых палітыкаў. Паталагічна бачаць у кожным вядучым палітыку яўрэя. Некаторыя з іх прыпісваюць яўрэйскае паходжанне нават Глемпу. Вельмі здзіўляюцца, калі я гавару ім, што яўрэем быў Хрыстос і горача даказваюць, што не можа быць гэта праўдай, „бо Хрыста якраз жыды замучылі і прыбілі да крыжа.”

Як я ўжо сказаў, рашучасць у суджэннях праяўляецца з асаблівай сілай тады, калі размоўца ведае капіталіста, якога я стараюся характарызаваць пазітыўна. Вось прыклад такога асуджэння з боку 65-ці гадовага селяніна:

„Ты мне Баршчэўскі не п...дзі аб дабрачэ гэтых тваіх капіталістаў. Ты тут хваліш гэтага..., а чы ты знаеш аб тым, што ён судзіцца з братам за хату ў Л...? Ну так як гэто будзе? Калі ён ужэ скочыў да горла сваему братаві і хочэ ад яго вырваць частку, то ён паможэ чужому? Ён, б..., калі толькі будзе магчы, аграбіт роднага бацька! Ты, Баршчэўскі, слабо відно помніш, што тут у нас рабілаcё перад вайною. От тады быў у нас тут самы капіталізм, аб катором ты мне тут трэліш. То ж людзі ў нашай вёсцы і каждой другой вёсцы не вылазілі з блох, блашчыц, прусакоў. Па дзецях лазілі вошы, ела іх кароста. А чы ты, Баршчэўскі пахадзіў у пасталах? Хадзіў? А чы ты знаеш, што гэто такое, калі пойдзеш, бывала, зранку да лесу, наб'еця табе ў пасталы мокраго снегу і нага хлюпае ў вадзе, а пасля прыцісне мароз і табе ганучы на нагах замерзнут на косць? Ты знаеш, што гэто такое? От, бо я табе скажу — гэто якраз капіталізм. Абыдзі сягодня ўсе вёскі, а нідзе не знойдзеш пастала. А як жэ, я, моў, хаваў іх. Спачатку думаў, што можэ прыдацца, а пасля то трымаў от так сабе, для памяці. Мая старая, дурная, узяла і ў печ кінула, спаліла. А мне шкада. Ніхай былі б, унукам паказваў бы, або ў музей Майсені аддаў бы.

Пару лет таму назад, як бывало, ідзеш па Беластоку, то тут-сют бачыш — валяецца кусок хлеба, а то і цэла булка, а ў кашах на смеце то хлеба поўно. А от я быў нідаўно ў Беластоку, то нідзе не бачыў найменшага куска хлеба. А Назарко, то ён кашы ад смеця чысціт, то кажэ, што цяпер ужэ ў кашах хлеба німа, а бывае і такое, што людзі старые шукают па кашах хлеба і з'ядают. Ведаю, што нідобрэ было, што людзі хлеб кідалі абы-дзе, бо гэто навет і грэшнэ дзело, але тое, што чалавек выварочвае смеце, каб знайсці кусочок хлеба і з'есці, то гэто ужэ настаяшча беда. Чы ты мне, Баршчэўскі, можэш сказаці, што як ужэ поўнасцю ў нас будзе гэты капіталізм, то ўжэ ніхто ні будзе шукаць хлеба ў сметніку? Ну, скажы, Баршчэўскі, ці хваціт для ўсіх хлеба ў гэтым цэлом капіталізме? Пры сацыялізме то людзі пажылі так як ніколі не жылі на нашуй зямлі. То чы ж цяпер мы можэм аб гэтым усім забыць і маліцца да гэтых тваіх капіталістаў? Я понімаю, што мы свету не зменім, калі ўжэ ў ім штось там павярнулася і пашло ў бок капіталізму, то відно ўжэ ніхто тут ні паможэ, але ты ні жджы, каб я яго хваліў. Мне сябе то ўжэ ні шкада. Я там якась дажыву да смерці. Але што будзе з унукамі і праўнукамі. Хто ім даст науку, работу? Хто ім даст кватэры, хто іх будзе лячыць?

Ї таму, Баршчэўскі, ты як сабе там хочэш, то так сабе і думай і гавары, але тут нас то ўжэ ніхто не пераробіт. Людзі пажылі па-панску, а цяпер то старые сідзят, думают і баяцца, што калі ім яшчэ жонд дабярэцца да рэнтаў, то будзе ім, беднягам, капут. Ну, але што нажыліі то нажылі, нічого не скажэш, а капіталісты аскубут нас як зарэзану гуску, от што, Баршчэўскі!

**АЛЕСЬ БАРСКІ**



ВЯРТАЕМ ГЕРОЯЎ

У 49 нумары „Нівы” Васіль Петручук у артыкуле „Новаберазоўцам — ура!” піша пра санацыйныя санаторыі, у якіх лечылі „хворых” беларусаў. Ардынатару такой санаторыі ў Картуз-Бярозе Костку Бярнацкаму польская эміграцыя ў канцы 50-х гадоў збіралася таксама паставіць помнік. Але ж вядома, знайшоўся і такі, якому гэтая высакародная ідэя не спадабалася і напісаў ён у рэдакцыю лонданскага „Dziennika Polskiego” такі ліст:

**Kiedy stanie pomnik Kostka Biernackiego?**

Jak Akademia w Zamościu była ukochanym dziełem kanclerza Zamoyskiego, tak Bereza była obiektem dumy wojewody (ministra w nagrodę) Kostka Biernackiego.

Bereza podlegała nie policji, ale jemu. Kostek Biernacki przyjeżdżał do Berezy regularnie, kilka razy na miesiąc, sztorcował komendantów (Grefnera, a później Kamalę Kurhańskiego), że reżym jest za łagodny, nakazywał nowe tortury. Po każdej jego wizycie wzrastało znęcanie się nad więźniami.

Kostek zobaczył, jak 11 więźniów ciągnie po błocie, tam i z powrotem po obozie, ciężki wóz naładowany gliną.

— Dlaczego aż 11, wrzasnął sadysta Kostek, 9 wystarczy.

Za następną wizytą kazał zmniejszyć zaprzęg do 7. Potem do 6, do 5, do 4 więźniów. Gdy aż 3 spośród ciągnących padło z przepukliną — Kostek był szczęśliwy.

To Kostek Biernacki wymyślił torturę zakazu oddawania kału, a potem zakazu używania papieru czy czegokolwiek dla podtarcia. Był zapewne bardziej dumny z tego wynalazku, niż Fleming ze swej penicyliny.

**KAROL ZBYSZEWSKI**
Londyn
„Dziennik Polski”
верасень — 1959.

Спадар В. Петручук не ведае, што ў ахове здароўя беларусаў вялікія заслугі мелі перш за ўсё прыдворныя Маршалка, сярод якіх Костэк Бярнацкі быў адным з найбольш выдатных.

**МІКАЛАЙ БУСЛОВІЧ**

## У ПЛЫНІ ПРАВАСЛАЎНАЙ ДЭМАГРАФІІ

*Працяг са стар. 7*

пенскай у Боцьках (1772 г.), Нараджэння Св. Дзевы Марыі ў Мельніку (1773 г.), Успенскай у Чыжах (1781 г.), Успенскай у Заблудаве (1787 г.), Уздзвіжанскай у Андрыянках (1799 г.). Апошнія даныя, для існуючых прыходаў, канчаюцца на 1991 годзе. Зразумела, што аўтару не ўдалося сабраць поўны матэрыял для ўсіх цэркваў. Шмат кнігаў проста загінула. Старэйшыя, якія захаваліся, у сваю чаргу часта некамплектныя, у дрэнным стане, а нярэдка і цяжкія да прачытання.

Дапаўненнем тома бібліяграфіі з'яўляецца шэсць дадаткаў. Знаходзім сярод іх інструкцыю для прыхадскога духавенства Варшаўскай Праваслаўнай мітраполіі ў сувязі з дзяржаўнымі законамі аб грамадскай рэгістрацыі нараджэнняў, вянчанняў, пахаванняў і разводаў ад 1946 г., узоры адпаведных пасведчанняў, змест ліста ад 1949 г. у справе перадавання праваслаўнымі прыходамі метрычных кнігаў загсам і выпіскі са справаздач з ходу той жа акцыі ў Беластоцкім і Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветах. Далей знойдзем спецыфікацыі (з графамі) хрышчэнняў, вянчанняў і пахаванняў на прыкладзе сямі вясковых і сямі гарадскіх прыходаў у Беластоцкім ваяводстве, а таксама сямі прыходаў у самім Беластоку — усе за гады 1946—1991. Том бібліяграфіі канчаюць паказальнік мясцовасцей і цэркваў у іх і змест.

Кніжка старанна графічна аформлена. Асабліва цікава рэкамендуюцца ўсе чатыры старонкі вокладак з факсіміле старых дакументаў. На жаль, у тэксце здараюцца карэктарскія памылкі; перш за ўсё пападаецца на вочы слова „matrykalny”, якое паяўляецца ва ўступным слове ажно чатыры разы.

Бібліяграфія выдадзена пры дапамозе Камісіі апекі над помнікамі старадаўнасці Варшаўскай Праваслаўнай мітраполіі.

Айцец Рыгор, з нецярплівасцю чакаем вашай чарговай кніжкі!

**ПЁТР БАЙКО**

*) *Ks. Grzegorz Sosna, Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie, Część demograficzna: chrzty, śluby, zgony (według ksiąg metrykalnych), Ryboły, 1992, ss. 159.*

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# ВЯДЗЕРЦА

Было гэта пару тыдняў таму, 1 снежня. Спыніла мяне ў „Дэлікатэсах” цягнучы за рукаў, румынaчка (цыганка?) гадоў адзінаццаці.

„Ну што я табе, дзіця, дам, — падумала я, — калі маіх заробкаў за кастрычнік хапіла, каб заплаціць за кватэру і страхоўку за самаход...”. Кінула ёй тысячу, а яна скрывілася: „Daj dychę!” „А скуль я табе тую „дыху” вазьму, — гавару сама сабе, бо яна ж і так не зразумее, — калі за лістапад нашы журналісты яшчэ нічога не атрымалі: „культура” сёння бедная, усяго 0,6 працэнта з бюджэту ёй прызналі...”

Цешачыся, што з мужавай зарплаты яшчэ засталося на бензін, я рушыла на бензастанцыю ў надзеі затанкаваць сёння поўны бак бензіну — чырвонае вочка настойліва маргала мне ўжо ад некалькіх дзён.

* * *

Быццам чародка птушанят, акружылі мой самаход каля бензакалонкі хлапчукі гадоў пяці-сямі. Не, бадай сямігадовага сярод іх не было — усе яны былі ў дашкольным узросце.

Было ўжо амаль цёмна, марозіла. Спачатку я нават не зразумела, што робяць тут гэтыя дзеткі ў так позную пару. Ї раптам хлопцы адзін перад другім пачалі прасіць, каб я дазволіла ім памыць пярэднюю шыбу самахода, або прынамсі працерці фары; „Prose pani, chociaz światła”, — паўтаралі безупынку, а я баранілася перад імі тым, што еду зараз мыць цэлы самаход на мыйню.

Перада мной у чарзе чакала яшчэ самаходаў пяць, і я мела час, каб прыглядзецца хлопцам. У гэты марозны вечар былі яны апрануты ў тоненькія курткі і аж трэсліся ад холаду. У адной руцэ кожны з іх трымаў вядзерца з вадой. Вядзерца было невялічкае, крыху большае за тое, якім гуляюць дзеці ў пясочніцы. Якраз па ўзросту! У другой руцэ дзеці мелі мокрую анучку, якой працiралі шыбы. Ручкі, што трымалі гэтыя прылады да працы, былі чырвоныя і мокрыя. Дзеці гэтыя выдаліся мне халодныя і галодныя. Мо таму, што ў вячэрнім святле, але былі нейкія бледныя і худыя.

Тым не менш не прасілі яны падачкі, яны хацелі зарабіць грошы сваімі рукамі. Гэтыя малалеткі ўжо добра ведалі цану працы.

— Ты колькі сёння зарабіў? — спытаў меншанькі большанькага.

— Я — адзінаццаць тысяч, а ты?

— А я толькі пяць, — павесіў нос маленькі.

Ну, што ж, на дзве лепшыя булачкі і ён зарабіў, падумала я. Няхай прывыкае да новага жыцця. Калісь сядзеў бы ў доме культуры ды ў маладога канструктара або ў шахматы гуляў, а сёння ад малога да працы падрыхтоўваецца. Жыццё, яно не забава, свае цвёрдыя правы мае. Што з тых шахмат?! Грош цяпер толькі лічыцца...

Вунь у Амерыцы ці Італіі, а нават і Егіпце дзеці і абутак чысцяць, і самаходы мыюць, і ў крамах пільнуюць, каб не кралі, і на пасылкі бегаюць, і газеты прадаюць. А мы што, горшыя?! Бывала, на дварэ гойсае цэлымі днямі, а калі брацiка малога ці сястрычку такі хлопец прыпільнуе, то ўжо вялікая ласка. Разбэсціліся. З такім выхаваннем у „Еўропу” не трапіў бы, чалавеча.

Праўда, бацьку такога малога яшчэ некалькі гадоў таму марылася, што во і ён нарэшце зажыве па-людску. Перасядзе з веласіпеда на самаход; паедзе нарэшце на адпачынак за граніцу без ніякіх гандляў, па-панску; у любы момант зможа купіць новую кватэру, ды прынамсі такую, як у Алексіс з „Дынасты”.

Што датычыцца малога сынка, дык марылася яму няшмат. Вось купіць яму „відэо” ды камплект касет да яго (каб не лётаў, як старэйшы сын, па клубах), набудзе нарэшце славутыя кубікі „Lego”, а пасля школы, калі ўжо на двары сцямнее, сядуць яны ўтраіх з сынамі ў хаце ды возьмуцца за тыя дасканалыя будоўлі, якія можна вычараваць з гэтых магічных кубікаў. А змучаца — будуць аглядаць дзіцячыя фільмы ва ўласным „кіно”.

Замест відэамагнітафона давялося купіць маленькаму сынку вядзерца. Жонка з яго старой фланелевай кашулі выразала анучку і з гэтымі прыладамі яны выслалі дзіця крыху падзарабіць. Пойдзе ў школу — будзе цяжэй, а пакуль што часу шмат мае...

* * *

Сярод тырчачых у маім вакне галовак я выбрала найбольш нэндзную. Дала пяцёрку і кіўнула на фары. Няхай памажа, падумала я, і так еду на мыйню...

**АДА ЧАЧУГА**

## ПАВАЖАНАЯ "ЗОРКА"!

Нядаўна ў Пачатковай школе ў Новым Беразове (Гайнаўская гміна) вучні арганізоўвалі цікавае мерапрыемства - "Анджэйкі". Згодна з традыцыяй, дзяўчаткі і юнакі варажылі пры дапамозе растопленага воску, які лілі на ваду, а таксама ўдзельнічалі ў шматлікіх конкурсах спраўнасці. Быў і пачастунак: булачкі з каўбасай, піроржнае, гарбата. Мерапрыемства закончылася дыскатэкай. Прыемных уражанняў было многа.

Зараз новаберазоўскія школьнікі рыхтуюцца да Новагодняй ёлкі. Калі выпадзе снег, будзе кулік - катанне на санках па вясковай вуліцы. Калі снегу не будзе, цікавыя гульні адбудуцца ля кастра на школьным панадворку. Будзе баль у масках і ў загадзя падрыхтаваным самым дзіўным убранні. Падсілкавацца можна будзе бігасам. Падарункі раздасць Дзед Мароз.

Прывітанні "Зорцы" ад імя вучняў перадаў
**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**



*У „беларускай школцы" ў Беластоку* **Фота А. Чачугі**

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## ПЕПІТА І ВЫСАКАРОДНЫ РАЗБОЙНІК

У той час, калі дзікі кот Мурзік пайшоў выконваць апошнюю просьбу з'еўшага каштан пацука пана Абадрана, котка Пепіта ляжала на канапе і чытала раман. "Ах, калі б у жыцці былі такія высакародныя разбойнікі, як у кнігах!" - марыла Пепіта. І раптам на падваконнік адкрытага акна ўскочыў незнаёмы горды кот. Яго зялёныя вочы злавесна ззялі, вусы грозна тапырыліся, а шматлікія шнары і выдрапаныя кавалкі поўсці сведчылі пра сапраўдную ваяўнічасць.

- Ах! - усклікнула Пепіта. - Хто ты?

- Я - дзікі кот Мурзік! - адказаў госць. - Я прыйшоў пакараць зладзейку Пік-Пік, якая атруціла майго лепшага сябра пана Абадрана.

- Як гэта так?! - здзівілася Пепіта. - Мышка Пік-Пік - мая сяброўка, і яна ніколі не можа атруціць! Тут нейкая памылка!

- Ну, раз так, - сказаў Мурзік, уважліва паглядзеўшы на прыгажуню Пепіту, - то я не буду гэтую асобу шукаць. Толькі, прызнацца, я не паабедаў перад паляваннем...

Пепіта была разумнай коткай і зразумела намёк. Хутка Мурзік ужо еў катлеты і запіваў малачком, адначасова размаўляючы з Пепітай:

- Канечне, чароўная дама, жывеце вы сытна, чыста, але сапраўднага жыцця не ведаеце. Хіба кот можа сядзець у чатырох сценах! Няўжо ні разу вы не пабывалі на даху, не глядзелі на поўню? Няўжо ні разу высакародныя каты не скрыжавалі за вас кіпцюры?

Пепіта слухала Мурзіка з захапленнем. Нарэшце яна пабачыла вольнага ката - разбойніка, які нікога не баіцца! А кот працягваў:

- Самая смачная ежа - гэта ежа, якую ты сам украў ці здабыў у бойцы! Мне шкада вас, чароўная пані! Калі б вы захацелі, я б паказаў вам, як жывуць сапраўдныя каты!

Пепіта гатова была ісці за Мурзікам хоць зараз, але ён папрасіў пачакаць да ночы, бо мае важную справу ў падвале.

Як вядома, Мурзік пайшоў уступаць у ўладанне наследствам пана Абадрана. Калі ж нічога з гэтага не атрымалася, Мурзік не надта засмуціўся: па-першае, ён ужо пад'еў, а па-другое, яго вельмі ж зацікавіла прыгожая хатняя котачка Пепіта. І калі на двары сцямнела, вольны кот ускочыў на падваконнік знаёмай кватэры. Пепіта ўжо чакала свайго героя.

- Ну што, - горда сказаў Мурзік, - скокнем уніз?

- Ой, баюся! - спалохалася Пепіта. Але кот скочыў на зямлю, сцягнуўшы Пепіту за сабою.

І пачаліся начныя прыгоды. Мурзік знаёміў Пепіту з іншымі катамі, вадзіў яе на дах, спяваў кашэчыя серэнады і біўся з чорным аблезлым катом. Пад раніцу Пепіта стамілася ад уражанняў і захацела есці. Мурзік павёў яе да сабачай будкі, сказаў стаяць і каравуліць, а сам сунуўся туды і выскачыў з кавалкам сасіскі. Адначасова з будкі вылецеў вялізны сабака, і каты ледзь уцяклі. Мурзік прапанаваў Пепіце палову здабычы. Пепіта пажавала і не змагла праглынуць: сасіска была зусім сапсаваная, брудная і да таго ж пажаваная сабакам.

- Ну, пайшлі цяпер спаць, - заявіў Мурзік і павёў сваю даму ў падвал.

- Як, тут я павінна спаць?! - жахнулася Пепіта, убачыўшы халодную смярдзючую кучу пяску.

- Ну, мы вольныя каты... - пачаў Мурзік, але Пепіта яго не даслухала:

- З мяне хопіць! Пайду дадому.

І пайшла. Мурзік доўга крычаў ёй услед, што з яе ніколі не выйдзе сапраўднай коткі, але Пепіце ўжо было ўсё роўна. Галодная, сонная, ледзь дабрыла яна да сваёй кватэры. А назаўтра раніцой прачнулася ад свербу. Мама заўважыла, што іх котка нешта чухаецца, падыйшла паглядзець, ці не захварэла...

- Тата! Веранічка! Сюды! У Пепіты блохі!!! - закрычала Мама. - Хутчэй налівайце вады ў ванну, рыхтуйце мыла!

Вой, як было сорамна Пепіце... Як праклінала яна рамантыку і недарэчнае падарожжа па брудным падвале...

- Глядзі, не блытайся больш абы-дзе! - строга сказаў Тата Пепіце. - Не набліжайся да вулічных катоў, а то яшчэ што падчэпіш.

І Пепіта раз і назаўсёды вылечылася ад жадання зрабіцца вольнай коткай.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**



## Вершы Віктара Шведа

**БЯСЦЭННАЯ ДАЧУСЯ**
Наша Наталька малая
Цэны з прадуктаў зрывае.
Калі ўжо іх мае многа,
Клеіць на рукі і ногі,

А потым мамку пытае:
- Мама, ці я... дарагая?
Адказвае доні мамуся:
- Бясцэнная ў нас ты, дачуся.

**АБУЕШ МАЕ БОЦІКІ**
У летні дзень малую Нату
Дзеці на двор паклікалі.
Яна абула боты таты,
Цяжкія, завялікія.

- А ў чым жа я, скажы, дачуся,
Пайду на двор, мой коцік?
- Ты нервавацца тут не мусіш:
Абуеш мае боцікі!

**Я ПІЛЬНУЮ ТАТУ**
На рабоце маці
Поўна непакою:
Мучыцца у хаце
Татулька з малою.

Вось звоніць мамуся:
- Што ты робіш, Ната?
На гэта дачуся:
- Я пільную тату!

**МАМА Ў ТЭЛЕФОНЕ**
Тэлефон заўзята
У пярэдняй звоніць.
Закрычала Ната:
- Мама ў тэлефоне!

І здымае трубку
Няўмела малая.
Задрыжалі губкі,
Што сказаць - не знае...

**ШТО ТЫ РОБІШ, ТАТА?**
Запытала Ната:
- Што ты робіш, тата?
Мама ёй на гэта:
- Тата стаў паэтам!
Для розных малышак
Тата вершы піша.
Ната пагалядзела,
На стале прысела:
- Дай паперу, мама,
Напішу таксама!

**ПУСТЫ ЖЫВОТ І ГАЛАВА**
- Я не бяру нічога ў рот,
Баліць страшэнна мне жывот.
- А ведаць жа павінен ты:
Баліць таму, што ён пусты.

- Цяпер я ведаю, мой брат,
Чаму хварэў ты акурат:
Вядома ўжо, як двойчы два,
Чаму балела галава!

**НЕЧАКАНЫ АДКАЗ**
Хлопцы спыталіся Рыгора,
Што ездзіў адпачыць у горы:
- Скажы, калі ты там пакінуў
Найпрыгажэйшыя хвіліны?

Прызнацца трэба, не чакалі
Сябры адказу вось такога:
- Тады, калі мне гіпс здымалі,
Што ў ім знайшліся мае ногі!

**МІКРОБЫ ПАЗДЫХАЛІ**
- Не пі сырой вады, сынок,
У ёй жывуць мікробы.
Вып'еш такой вады глыток -
І пэўная хвароба!

- Не будзе гэткае бяды,
Матуля дарагая,
У брудзе сённяшняй вады
Мікробы паздыхалі!

**КАНАЛЫ Ў ВЕНЕЦЫІ**
Шукаў Міхась чагосьці ў тэлебачанні,
Цікавага нічога не знаходзіў.
Толькі ўжо часу непатрэбна страчана,
Рэкламы да стамлення сталі ў модзе...

- Каналы два - слабая канкурэнцыя, -
Дасціпны адазваўся раптам Колька. -
Найлепей маюць гледачы ў Венецыі,
Каналаў усялякіх у іх столькі...

## ЗЛОСЦЬ НЕ ГОСЦЬ

- У нядзелю я буду святкаваць дзень нараджэння, - пахваліўся сябрам зайчык Фрык. - Запрашаю вас усіх да сябе ў госці.

- Прыйдзем, - уцешыліся зайчыкі.

- Апрача вас у мяне будуць незвычайныя госці. Прыйдзеце, пазнаёміцеся.

Сябры Фрыка з нецярплівасцю чакалі нядзелю. Думалі: што гэта за госці прыйдуць?

У нядзелю Кіцык, Шарык і Гопсік узялі падарункі для Фрыка і пайшлі ў госці.

За сталом сядзелі ўжо Цярплівасць, Ветлівасць і Шчырасць.

- Вітаем вас! - сказалі зайчыкі. - А табе, сябра, жадаем многа здароўя і здзяйснення ўсяго, аб чым ты марыш.

- Можа, пачнем частавацца? Адзін госць прыйдзе крыху пазней, - прапанаваў юбіляр.

- Не, пачакаем яшчэ, - сказала Цярплівасць. - Можа, нешта ў дарозе з ім здарылася?..

- Так, трэба пачакаць, а то яшчэ пакрыўдзіцца, - сказала Ветлівасць.

- Я думаю, што яе тут зусім і не трэба. Яна заўсёды псуе госцям настрой, - не згадзілася Шчырасць.

Раптам усе пачулі, як нехта злосна мармыча:

- Карчоў на гэтай дарозе поўна, пяском усё засыпана! Гэта так прымаць гасцей!? Гэта так рыхтаваць дзень нараджэння?!

Скрыпнулі дзверы. На парозе стаяла Злосць.

- Ну дзе той Фрык?! Чаму ты не вітаеш мяне, як належыцца найлепшаму госцю? А чаму ж ніхто нічога не есць, чаму не чуваць песень юбіляру?!

- Прабачце, калі ласка, калі што не так... - збянтэжыўся гаспадар.

- Мы вас ужо і чакалі, паважаная Злосць, - сказалі іншыя госці.

- Чакалі, чакалі!.. Я не хачу, каб на мяне нехта чакаў!!!

- Сядайце за стол, паважаная госця, - запрасіў Фрык.

- Ды няма мне дзе сесці! Каля Цярплівасці не хачу, Ветлівасці і Шчырасці - ненавіджу! Як жа жаны выглядаюць, а і ты таксама неадпаведна да такога свята апрануўся!

- Эгэ, ты, Злосць - не госць! - сказала Шчырасць. - Ідзі ты лепш да сваіх лепшых сяброў, і там ім дапякай!

- А пайду, пайду! Яшчэ пашкадуеце!- буркнула Злосць і пайшла.

**ІРЭНА САЛАВЕЙ**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

xxx

Калі хлопчык выпіў шклянку квасу, прадаўшчыца лагодна ўсміхнулася:
- Ну, а што трэба цётцы сказаць?
- Дайце рэшту.

xxx

- Міколка, няўжо ты так хутка прачытаў гэту кніжку? - запыталася бібліятэкарка.
- Ага, прачытаў.
- А кніжка цікавая?
- Я так хутка яе чытаў, што не заўважыў.

xxx

- Мама, якое будзе заўтра надвор'е?
- А гэта, сынок, залежыць ад сіноптыкаў.

xxx

Трохгадовую Марынку ўкладваюць спаць.
- Марыначка, спі.
- Мне святло перашкаджае! Выключылі святло.
- Ужо выключылі.
- А мне і выключанае перашкаджае.

xxx

- Давід, а ты ўжо ўмееш лічыць? - пытаюць малога хлопчыка.
- Так, умею. Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць, валет, дама, кароль, туз!

xxx

Настаўнік сустрэў п'янага бацьку аднаго свайго вучня і скардзіцца:
- Ваш сын на перапынках скача па партах!
- Нічога дзіўнага, - адказвае бацька. - Гэта спадчыннае: яго дзед верхалазам працаваў.
- Зразумела! Добра, што ён у дзеда ўдаўся, а калі б у вас - пад партамі мог бы лазіць!

xxx

- Мамка, купі мне яблычак.
- Ужо позна, дачушка, яблычкі ўжо спяць.
- Гэта маленькія спяць, а вялікія яшчэ не.

**АСЯ ПРАЛЕСКА**

### З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

Найбольшай магутнасці Полацкае княства, у якое ўваходзіла значная частка цяперашняй Беларусі, дасягнула ў часы княжання Усяслава, якога называюць яшчэ Чарадзеем (1044 - 1101 гг.). Пры ім у Полацку быў пабудаваны трэці пасля Кіева і Ноўгарада Сафійскі сабор. У той жа час, як можна меркаваць, Усяслаў паважліва ставіўся да язычніцкіх звычаяў, якіх прытрымлівалася значная частка жыхароў яго дзяржавы. У летапісе ёсць паданне, што і ён сам нарадзіўся "от волхования", г.зн. ад чарадзейства. Сярод сваіх сучаснікаў Усяслаў вылучаўся мудрым дзяржаўным розумам, ваеннымі здольнасцямі і вялікай энергіяй. Нават амаль праз сто гадоў пасля яго смерці ў "Слове пра паход Ігаравы" згадвалася, што "Усяслаў-князь людзям суд судзіў, князям гарады парадкаваў, а сам паначы воўкам бегаў ад Кіева да Цьмутакарані, перасякаючы дарогу вялікаму Хорсу. У Полацку звоняць ютрань у святой Сафіі, а ён у Кіеве звон чуе..." Ён рабіў настолькі імклівыя і нечаканыя для праціўнікаў паходы, што многія пачалі лічыць, быццам князь умее ператварацца ў ваўкалака і за ноч пераадольваць велізарныя адлегласці.

Як дальнабачны палітык, Усяслаў прадбачыў намеры кіеўскіх князёў завалодаць Полацкай зямлёй і не раз наносіў удар першым. Вядомыя яго паходы на Смаленск, Пскоў і Ноўгарад. Сучасныя нам гісторыкі прыйшлі да высновы, што паходы на гэтыя гарады мелі мэтай адрадзіць адзінства ўсіх зямель былога саюзу крывічоў, паколькі Пскоў і Смаленск раней былі буйнымі цэнтрамі гэтага аб'яднання, а ў заснаванні Ноўгарада прымалі ўдзел крывічы. Сярод простага люду ўсіх усходнеславянскіх зямель Усяслаў Чарадзей быў вельмі папулярны. Калі падманам захоплены ў палон, ён сядзеў у зняволенні ў Кіеве, там адбылося паўстанне. Народ прагнаў ранейшага князя Ізяслава, які не мог даць адпор нашэсцю качавых плямёнаў палаўцаў, і абраў кіеўскім князем Усяслава. Той змог нанесці паражэнне палаўцам. Але князя цягнула на радзіму, праз восем месяцаў ён пакінуў кіеўскі пасад і вярнуўся ў Полацак.

**ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ**
















ЯК СЦЯПАН ШАМПАНСКАЕ КАШТАВАЎ... з народнага •Л.Ш.•92





















## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прыснілася мне, быццам я знаходжуся ў роднай вёсцы. Іду па загарадзях. Раптам бачу: з боку могільніка ідзе бацька. У руках нешта нясе. Гляджу, а гэта тры каты, адзін — чорны, а два другія — у латкі. У адным месцы за загараддзю ў нас заўсёды стаяла вада. Так і цяпер, бачу на гэтым месцы вялікую лужыну. Бацька ўпускае катоў у гэту лужыну, і каты плывуць, цялёпкаючы, кіруючыся да мяне. Асабліва актыўны быў адзін, чорны, найбольшы кот. А я ведаю, што ў сапраўднасці каты баяцца вады, як агню...

А раней крыху яшчэ мне снілася, што нехта мне ўсадзіў у жывот, у кішкі, нож. А я здзіўлены, што кроў не ідзе. І кажу жонцы, якая стаіць і прыглядаецца: „Хутчэй да доктара, бо будзе заражэнне крыві!" Што прадвяшчаюць мае сны?

Мікола

Мікола! Сны папярэджваюць аб нейкіх нядобрых справах, якія рыхтуюцца табе. Бацьку сніць — заўсёды вынікнуць праблемы. А ён жа яшчэ нёс катоў, якіх выпускаў на цябе. Яны гавораць аб тым, што ёсць у цябе хітрыя і прадажныя сябры, якія рыхтуюць табе неспадзеўку. Можа, будуць нейкія брудныя плёткі (каты плылі ў лужыне).

Твой другі сон таксама дрэнны. Нож абазначае вялікія непрыемнасці і сварку.

АСТРОН

## БУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### СІБІРСКІ ПІРОГ

На пірог (порцыя для 4—6 чалавек) трэба ўзяць: 750 г цеста на дражджах, 1 яйка, 100 г масла для палівання пірага, ды фарш: 600 г асятрыны ці ласося, 2 вялікія цыбуліны, паўтары лыжкі масла, соль, перац.

З сырой рыбы выняць косці. Мяса пасячы на вельмі дробныя кавалачкі. Цыбулю абабраць, дробна пасячы і падсмажыць на алеі не надта моцна.

Вырасшае цеста на дражджах падзяліць на 3 часткі ў прапорцыях 2 : 2 : 1 і адлажыць на 10 мінут. Яйка збіць на аднастайную масу.

Большыя порцыі цеста раскатаць на пасыпанай мукой дошцы. Павінны атрымацца прамавугольныя бліны таўшчынёй 1 см. Пасыпаць іх мукою.

Адзін з бліноў палажыць у ванначку на пергаментную паперу, змазаную тлушчам. Палажыць на яго пласт пасечанай рыбы, пасаліць, дадаць перац, а тады накрыць рыбу пластом падсмажанай цыбулі. Усё накрыць другім бліном з цеста і старанна заляпіць пірог на краях.

З рэшты цеста фармаваць тонкія валікі і азадабляць імі пірог.

Гатовы пірог змазаць узбітым яйкам. Пячы ў нагрэтай да 230 градусаў духоўцы на працягу 45 мінут.

Спечаны пірог паліць растопленым маслам.

ГАСПАДЫНЯ

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4081. Мікалай Зянюк /Гайнаўка/ - 10.000 зл.
4082. Галіна і Аляксей Карпюкі /Бельск-Падляшскі/ - 120.000 зл.
4083. Ільля Агіевіч /Орля/ - 100.000 зл.
4084. Юстын Пракаповіч /Беласток/ - 100.000 зл.
4085. Люба Каралько /Гайнаўка/ - 50.000 зл.
4086. Антаніна Камінская /Навасады/ - 50.000 зл.
4087. Леаніда Арабчук /Гайнаўка/ - 20.000 зл.
4088. Галена Антанюк /Гайнаўка/ - 10.000 зл.
4089. Ніна Качук /Гайнаўка/ - 10.000 зл.
4090. Валянціна Леанчук /Гайнаўка/ - 10.000 зл.
4091. Таіса Раманюк /Гайнаўка/ - 10.000 зл.
4092. Рыгор Хіліманюк /Гайнаўка/ - 10.000 зл.
4093. Ян Сухадола /Гайнаўка/ - 50.000 зл.
4094. Галена Бушко /Гайнаўка/ - 50.000 зл.
4095. Марыя Аўласюк /Гайнаўка/ - 50.000 зл.
4096. Сяргей Пташынскі /Гайнаўка/ - 60.000 зл.
4097. Зоя Смаршчок з Бельгіі - 5 бельгійскіх франкаў.

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

### МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

Адны гавораць, што чай уздзейнічае на арганізм чалавека больш-менш, як кава, а менавіта пабуджае арганізм, падымае настрой у чалавека. Іншыя ж, наадварот, гавораць, што чай іх супакойвае. Дык хто ж тут мае рацыю?

Рацыю маюць і адны, і другія. Бо з гэтым чаем бывае так: у першыя дзве мінуты пасля таго, як чай запараць, чайныя лісткі выдзяляюць узбуджаючы тэін, а толькі пасля супакойваючы (асабліва страўнік) танін. Такім чынам, хто хоча ліквідаваць санлівасць, спраўней працаваць разумова, асвяжыцца пасля працавітага дня, павінен піць чай адразу ж пасля таго, як заварым эсэнцыю.

Знаўцы гавораць, што чаю нельга дазволіць запарваца даўжэй як пяць мінут, бо пасля гэтага часу ён становіцца горкім.

(а-ця)

### РАСЛІНЫ СУПРАЦЬ ПАРАЗІТАЎ

Народ даўно ўжывае расліны ў барацьбе супраць паразітаў жывёл. А што аб гэтым гаворыць навука?

У Беларускім навукова-даследчым ветэрынарным інстытуце свінням давалі канюшыну, кармавы лубін, чорную рэдзьку. Заражанасць жывёлы аскарыдамі, трыхацэфаламі і іншымі паразітамі значна знізілася. У свіней, у рацыён якіх на працягу трох-чатырох тыдняў уваходзіла свежаскошаная канюшына, заражанасць странгілоідамі знізілася больш чым удвая, трыхацэфаламі — на 35—66 працэнтаў, аскарыдамі — на 28—40 працэнтаў. Свінні, якія пасвіліся на полі з падсеянай белай канюшынай, на 35 працэнтаў вызваліліся ад балантыдзій і на звыш 20 працэнтаў — ад аскарыдаў.

Аналагічны эфект дае кармавы лубін. Заўважана, што ў гаспадарках, дзе свінні ў летнія месяцы ядуць кармавы лубін, заражанасць аскарыдамі, трыхацэфаламі нізкая.

Наступныя доследы праводзіліся з чорнай рэдзькай. Гэты караняплод праз тры-чатыры тыдні даваў зніжэнне заражанасці трыхацэфаламі больш чым на 30 працэнтаў і аскарыдамі — больш чым на 18 працэнтаў.

Адной партыі свіней даваліігліцу. Лапкі сасны, дадзеныя ў рацыён, вызвалілі за месяц ад аскарыдаў 25—35 працэнтаў жывёл.

Цікавыя таксама доследы былі праведзены на птушкафермах. Курам давалі лубін, цыбулю, моркву, гарбузы. 50—100 грамаў кармавога лубіну ў дзень зніжалі інтэнсіўнасць інвазіі паразітаў у тры-чатыры разы. Паспяховыя вынікі атрымаліся ў эксперыментах з цыбуляй і морквай.

У нашы дні вялікіх поспехаў у барацьбе з паразітамі дасягнула хімія. Але пошукі раслінных сродкаў барацьбы супраць паразітаў падмацоўваюць хімію. Даказана, што кармавы лубін, чырвоная канюшына і сасновыя лапкі павышаюць эфектыўнасць хіміка-тэрапеўтычных сродкаў барацьбы. Канюшыну і лубін свінні ахвотна ядуць, яны хутка развіваюцца, а ігліца шырока ўжываецца як вітамінная і мінеральная падкормка ў зімовы час.

(а-ця)

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1/ жыве ў Гданьскім Прымор'і, 4/ канец, мэта, 7/ паўднёвая аднагадовая расліна сямейства гарбузовых, завязі якой ужываюцца ў ежу, а спелыя плады ідуць на выраб мачалак, летніх галаўных убораў, 9/ вялікая пляшка, 10/ плата за карыстанне маёмасцю, 11/ наш надзённы, 12/ магазін, лаўка, 15/ ласкавая назва каровы, 18/ недакураная папяроса, 20/ малакасос, 23/ саламяны дах, 26/ працаўнік на сплаве лесу, плытагон, 28/ моцны рэзкі штуршок, 29/ нямецкі пісьменнік, аўтар рамана „На заходнім фронце без перамен", 30/ самец качкі, 31/ прывід, здань, насланнё, 32/ нямецкая грашовая адзінка, 33/ орган мочавыдзялення.

**Уніз:** 1/ пасудзіна для пірцця або ваза для пераможцы, 2/ машына для шатравання зерня ў млыне, 3/ крые бляхаю дах 4/ рэчыва, якое надае колер прадметам, 5/ паўднёваамерыканскі трохпальцы страус, 6/ сабачае дзіця, 8/ канфорка, 13/ урачысты, званы вечар, прыём, 14/ зменлае збожжа або пакута, 16/ напрамак руху судна адносна ветру, 17/ дугападобны паварот ракі, 19/ палачка, ручка, 21/ драўляны або мураваны плот, 22/ воін прывілеяванай рэгулярнай пяхоты ў султанскай Турцыі, 23/ збянтэжанасць, няёмкасць, ганьба, 24/ майстар, які займаецца вырабам вупражы, 25/ трапічнае дрэва сямейства эбенавых, 27/ невялікая пасудзіна для спіртных напіткаў.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку-асацыятку з 44 н-ра. Управа:** рабіна, камуна, рапуха, зязюля, партыя, кладка, штопар, пакута. **Улева:** рукзак, кабета, рамонт, запона, пазуха, кароль, штатыў, пробка.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | ■ | ■ | 4 | | 5 | | 6 |
| | ■ | | ■ | 7 | | 8 | | ■ | | ■ | |
| 9 | | | | | ■ | 10 | | | | | |
| | ■ | | ■ | 11 | | | | ■ | | ■ | |
| 12 | 13 | | 14 | | ■ | 15 | | 16 | | 17 | |
| ■ | 18 | | | | 19 | | ■ | | ■ | | ■ |
| ■ | | ■ | | ■ | 20 | | 21 | | 22 | | ■ |
| 23 | | 24 | | 25 | | ■ | 26 | | | | 27 |
| | ■ | | ■ | 28 | | | | ■ | | ■ | |
| 29 | | | | | | ■ | 30 | | | | |
| | ■ | | ■ | 31 | | | | ■ | | ■ | |
| 32 | | | | | ■ | ■ | 33 | | | | |


**Ніва**

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палопкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 lutego 1993 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w I kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wyniesie 4000 zł., a kwartalnie - 52000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МА КАТ РАЗМЫ

### УЧАРАШНІ

Каціўся да фінішу, паўснам уздагон.
На душы былі слёзы, і была кроў.
Матляў галавою прыблудны гном.
Ад славы да ганьбы - адзін крок.

### ФАКС

Герой нашых дзён
Заўсёды відзён.

СІДАР МАКАЦЁР

## ПАСКАРАЛЬНІЦА

Прабяжыць у прыцемках міма кустоў высакародны Алень і раптам уздрыгнецца, адразу дабавіўшы ў хуткасці, бо нясецца яму ўслед з глыбіні зарасніку:

- Паскар-рэн-не!

Праскочыць міма кустоў Зайчаня, і затрымціць ад жаху ягоны хвосцік:

- Паскар-рэн-не! - б'е па чуйных заечых вушах той жа голас, і імчыць касы без аглядкі далей.

І толькі Чарапаху не напужаеш, бо гэта яна, па-майстэрску замаскіраваная, сядзіць у тых кустах і зранку да вечара, каб не адстаць ад часу, змененым голасам заклікае ўсіх паскарацца.

ВЯЧАСЛАЎ ГІЛЕВІЧ

# НІЎКА



*Малюнкі Войцеха Залэнскага*

## ПА САКРЭТУ

Я не крыўджуся, калі людзі глядзяць на гадзіннік падчас маёй прамовы. Але я не магу не нервавацца, калі яны пачынаюць трэсці яго і прыкладваць яго да вуха.

* * *

Калі я ўцёк адтуль, мне паведамілі, што мяне завочна аддалі пад суд, завочна даказалі маю віну і завочна прыгаварылі да смерці. Я ім напісаў, каб расстралялі мяне таксама завочна.

## ІМПАРТГУМАР

Гаспадар дома захварэў і злёг у пасцель. Жадаючы аблегчыць яму боль, нявестка падала шклянку малака, куды дабавіла чарачку каньяку. Свёкар з задавальненнем яго выпіў і тут жа распарадзіўся:

- Гэту карову нікому не прадаваць!

* * *

Дырэктар дакарае сакратарку:

- Нельга рабіць столькі памылак, перапісваючы даклад.
- Сэр, як гаворыць прыказка, "у каня чатыры ногі, і то спатыкнецца".
- Правільна, міс. Ды ён не атрымлівае такой высокай зарплаты.

* * *

- Ты калі-небудзь бываў у Гётэбаргу?
- Ніколі.
- Тады ты павінен ведаць маю сястру. Яна там таксама ніколі не бывала.

* * *

У паліцыю ўбягае чалавек і гаворыць:

- Я прыйшоў здацца ўладам.
- А што вы зрабілі?
- Я ўдарыў жонку...
- І забілі яе?
- Што вы! Нават не пацарапаў!
- Ну, гэта глупства. Можаце ісці.
- Ні за што! Яна стаіць за гэтымі дзвярыма.

* * *

- Чым вы вытлумачыце, падсудны, што на працягу пяці год не размаўлялі са сваёй жонкай?
- Маім добрым выхаваннем.
- Гэта значыць?
- Я не хацеў перабіваць даму.

Падборку зрабіў
ЯНКА ДАРОЖНЫ

## ХТО МЫ?

Нарэшце ўзышла для нас ВЭНЭРА...
ВЭНЭРА? А трасцу! "Венера", "Вянера"!
Браткі-беларусы, дзе ж я апынуўся?
У Менску? "У Мінску"? Ці мо "ў Беларусі"?

Афіша "Крывавую цэль" прэзентуе,
Скаштуй "Ракавую памылку" такую.
"Шукальнікі жэмчуга" згодна з канонам,
Бо гэта "Брыльянты Расійскай кароны".

На "Плошчы", што плошчаю колькі "гектараў",
Задумаўся Колас над моўнай пачварай.
Хто мову давёў да ганебнага стану?
Дый хто мы - "тутэйшыя" ці "обезьяны"?

А вось і вяршыня - "Савет" наш вярхоўны.
Было Міністэрства, "па справах", вядома.
Там "хто как хаціт гаварыт". Не прысціла
Шчэ й "мовай" займацца - "пытанне ж стаяла!"

Бо ў "Кроку" - ўсе "наши", бо "Крок" - не такоўскі,
Пакажа вам "кузькину мать" Жырыноўскі!
А што? Праглынулі й такую знявагу,
Ужо нехта змагаўся за мову... ў ГУЛАГУ.

Во будзеце ціха - нічога не будзе -
"Мы все православные русские люди!"
А каб мы гісторы ўрок памяталі,
"ОХРАННУЮ ГРАМОТУ" нам даравалі.

РЭМ ТАМІЛІН

# ПАРАДНІК

**Ж. Скавародкіна.** Пакіньце хвалявацца тым, што вы не вельмі добра ўмееце гатаваць ежу. Калі абед не спадабаецца мужу, то выйсце тут толькі адно: трэба пакінуць гэты абед на вячэру.

**С. Дэздэмоненка.** Пытаеце, што трэба рабіць жанчыне, каб мужчына ўвесь час думаў толькі пра яе? Найлепш пазычыць у яго паболей грошай і доўга не аддаваць.

**Мажэна З.** З вашага пісьма вынікае, што ваш муж хутка стамляецца ў ложку. Думаю, што прычынай гэтаму можа быць вашая празмерная сарамлівасць. Сапраўды раіў бы я вам знімаць трусікі і калготкі перад гэтым, а не пасля.

**К. Цытрусіна.** Вы маеце рацыю. Жыўчыкі гінуць у кіслым асяроддзі і таму неадкладна можна карыстацца воцатам або лімонам. Вы інстынктыўна схапіліся за лімон. І слушна! Толькі навошта вы ўвапхнулі ў сярэдзіну цэлы фрукт? Дастаткова прымяніць сам сок. Ой, бабы, бабы!

**Ф. Піяўка.** Гэта праўда, што пры пацалунку /так сцвярджаюць вучоныя/ перадаюцца пяць мільёнаў мікробаў. Але цалавацца не бойцеся, бо адначасова вы таксама пазбаўляецеся ад такой жа колькасці мікробаў.

**Ванда І.** Ваша мама не мае рацы. Вы ўжо не такая зусім маладая, каб апасацца пачаць сексуальнае жыццё. 54 гады, паверце, гэта напэўна адпаведны ўзрост.

**Ганна З.** Не, я не ведаю, у якіх парках і ў якую пару бушуюць гвалтаўнікі.

*/паводле "Звязды" і "Карузэлі"/*



# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Ці можаш мне паверыць, што часамі больш хацелася б, каб мой хлопец пасварыўся са мной, не згадзіўся ў нечым, ну... можа нават часам і стукнуў. Не магу з ім вытрымаць. Так як падабаўся раней, так пачынае падабацца ўсё менш.

Найгоршае, Сэрцайка, гэта тое, што ён нават не патрапіць быць зайздросным, як кожны нармальны мужчына. Маўкліва спаглядае, калі ўбачыць мяне з некім іншым, і нават не пратэстуе. А мне б можа хацелася, каб ён падыйшоў, схапіў мяне за руку, адцягнуў ад майго знаёмага, а нават і ўдарыў яго. А ён — ні гу-гу. Можа, у сабе ён і перажывае, але ж ці па такім пазнаеш...

Часамі дык я і сама ведаю, што зрабіла нешта не так. Але яму ўсё добра. Ніколі не запярэчыць, не асудзіць, не падкажа, як лепш. Можа нават і псуе мяне. Сапраўдны прыяцель, па-мойму, гаворыць заўсёды праўду ў вочы, нягледзячы на вынікі. А ён — не. А мо ён такі закаханы, што нічога дрэннага ў мяне не бачыць?

У кожным разе пачынаю губляць зацікаўленне да яго. А я ж так яго кахала на пачатку!

Я яму расказваю шмат пра маіх сябровак. Расказваю таксама і пра хлопцаў, а нават і пра тое, як і каторы заляцаецца да мяне. А ён на іх зусім не злуецца. Любіць іх так, як і мяне. Мілыя яны яму.

Часамі прашу, каб нешта зрабіў таму-сяму, і мой хлопец (ён ужо немалы шэф) усё робіць, каб дагадзіць мне. А ведае ж, што калі я за некага прашу, то ёсць паміж намі нейкая нітка сімпатыі.

Часамі на забаве будзе сцэнку падпіраць, чакаючы, пакуль я вытанцуюся з іншымі. Не скандаліць, не мае да мяне прэтэнзій.

Не ведаю, Сэрцайка, чым гэта скончыцца, але здаецца мне, што вось-вось апынуся ў пасцелі з іншым, а ён і так мне нічога не скажа.

Часамі думаю, што я мо няшмат вартая, калі ён да ўсяго гэтага такі абыякавы. Сэрцайка, што з намі будзе?

**Галя**

Галя! Што будзе — пытаеш. А тое будзе, што нічога не будзе. Дзяўчаты не любяць ціхоняў, мілых, мірных хлопцаў. Ім падавай забіяку, такога, які ў бойку палезе, як толькі ўбачыць іншага хлопца каля сваёй дзяўчыны. Такія маюць поспех у дзяўчат.

Хлопец спакойны, зраўнаважаны, добры, які не любіць сварыцца, не ўмее рабіць іншым прыкрасць, не мае тут шанцаў. Такому давядзецца доўга шукаць жонку, бо большасць з яго выбранак у міжчасе мае нагоду трапіць у ложак іншага. Без болю і страху.

**СЭРЦАЙКА**

P. S. Калі пачне такі **нарачоны** стукаць не будучы яшчэ мужам, дык што будзе, калі станеш яго „уласнасцю?..“